22 чэрвеня 2018 | № 23 (586)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Расія: моўны бунт
Стар. 8

ISSN 2218-2144







**4 КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА СПЕЦЫФІКУ ГРАМАДСКІХ АДНОСІН**

Намі і цяпер кіруюць тыя, хто нарадзіўся ў СССР. Намі кіруюць «паважаныя людзі», якія сядзяць на дэфіцыце… улады

**5 ЦІ ВЫРАСЦЕ Ў КУРАПАТАХ БЕЛАРУСКАЯ «САЛІДАРНАСЦЬ»?**

Канфлікт у Нацыянальным некропалі з пункту погляду антраполага




**6–7 ЛЭНД-ЛІЗ**



У юбілейных прамовах не любяць згадваць ні пра саюзнікаў, ні пра дапамогу…

**10 БЕЛАРУСКІЯ «ДЗІКАВОСЫ»: ВУЛІЦЫ І ІХ НАЗВЫ**

Каго шануюць у сталіцы краіны. Хто нашы героі, пра якіх нам павінны штодзённа нагадваць назвы вуліц? Што ў сувязі з гэтым напамінам мы павінны адчуваць?

# Пра што яшчэ гавораць мужчыны

## Ці не дарма Пуцін прапусціў футбол?



Сяргей ПУЛЬША

Дзеля сустрэчы з Лукашэнкам Пуцін ахвяраваў праглядам у прамым эфіры матчу «Расія — Егіпет». Цяжка сказаць, ці вартая была гэтая ахвяра. Па вялікім рахунку, што было абмяркоўваць кіраўнікам дзяржаў падчас асабістай сустрэчы ў межах Вышэйшага дзяржсавету Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі?

Па-першае, як такая Саюзная дзяржава не адбылася (дзякуй Богу), а таму яе дзяржсавет — толькі рытуальныя «танцулькі». Па-другое, як з прыдыханнем паведамілі нам дыктары БТ, Лукашэнка і Пуцін за апошні час ужо некалькі разоў сустракаліся на розных мерапрыемствах — у маі ў Сочы на саміце ЕАЭС, і ў чэрвені — у Кітаі на саміце ШАС. Таму ў іх была магчымасць не толькі абмеркаваць усе праблемныя моманты і пытанні да сустрэчы ВДС СД, але і вырашыць іх.

У Масквы і Мінска ёсць некалькі галоўных праблемаў. Гэта нафтагазавае пытанне, пытанне «гандлёвых войнаў», нармалізацыя адносінаў Беларусі і Захаду (што не падабаецца Маскве) і незразумелая сітуацыя на беларуска-расійскай мяжы. Але пытанні гандлю і энергарэсурсаў паспяхова вырашаюцца без удзелу кіраўнікоў дзяржаў: прынамсі якраз у час ВДС СД Еўразійская камісія павінна была разбірацца з чарговай забаронай Рассельгаснагляду на беларускае малако. Нафтавы баланс Беларусь і Расія падпісалі, ідуць перамовы па газе. Сітуацыю кантролю на мяжы на саміце Саюзнай дзяржавы бакі ўвогуле павінны замаўчаць: што гэта за «дзяржава» з унутранай мяжой? Нармалізацыя адносінаў Сінявокай з Захадам дазваляльная — да тых межаў, да якіх Беларусь застаецца саюзнікам Расіі.

Дый я не выключаю, што такая нармалізацыя Пуціну нават выгадная — ва ўмовах адсутнасці наўпроставага дыялогу з «ворагамі Расіі» дыпламаты Беларусі можа быць «паштовым голубам» для пасылаў сігналаў Еўропе і Амерыцы з боку Расіі.

І самае галоўнае — афіцыйны Мінск, разумеючы фінансавую сітуацыю ў Расіі і ўласны знешні доўг у памеры 71,2% ВУП, больш не просіць у «старэйшага брата» падтрымкі беларускай эканоміці ў выглядзе новых крэдытаў.

Дык пра што размаўляць Лукашэнку і Пуціну?

«Яны думаюць, што гэта мы ім пенсійны ўзрост падняли… Няўдзячныя! Гэта ж мы сабе яго ўзнялі!» — у Расіі, як і ў Беларусі, пачалі падымаць планку пенсійнага ўзросту. Тут Лукашэнка і Пуцін могуць падумаць, абмеркаваць, падзяліцца досведам. З іншага боку, Аляксандру Рыгоравічу — ужо 63, а Уладзіміру Уладзіміравічу — 65. І для аднаго, і для другога надыходзіць час пенсіі. А сыходзіць на пенсію вельмі і вельмі не хочацца — не толькі фактычна, але і псіхалагічна. Хочацца, як раней, пачувацца маладымі і поўнымі энтузіязму.

«Саша, шчыра не разумею, чаму нашы людзі імкнуцца ў пенсіянеры», — мог бы пажаліцца Пуцін Лукашэнку. І абмеркаваць з ім падвышэнне пенсійнага ўзросту толькі для кіраўнікоў дзяржаў. Але атрымліваецца нясціплая няроўнасць — чым кіраўнікі дзяржавы горшыя (ці лепшыя — як паглядзець) за іншых кіраўнікоў? А кіраўнікі — горшыя за астатніх? Таму «ашчаслівілі» ўсіх, а народ да гэтага паставіўся не тое што без энтузіязму, але і са слаба прыхаваннай нянавісцю.




Лукашэнка мог бы параіць Пуціну пагуляцца ў «дрэнных баяраў і добрага кіраўніка», і тэма б плаўна перайшла да выканаўцаў.

Колькі разоў Пуцін ужо «вырашаў праблемы» з Рассельгаснаглядам, але таму ўсё няймецца. Нядаўна забаранілі ўвозіць з Беларусі сухое малако ў тары больш за 2,5 літры. Малако няякаснае? Цікава: чаму ў меншай тары яно якаснае, а ў тары больш за 2,5 літры — раптам не?

Тут бы Аляксандр Рыгоравіч мог шмат распавесці з уласнага досведу па барацьбе з карупцыяй і пахваліцца нядаўнімі пасадкамі медыкаў і супрацоўнікаў спецслужбаў. А Пуцін бы толькі зайздросна ўздыхаў: у Расіі ж клан на клане, пачнеш такую чыстку — хто ж для цябе грошы зарабляць будзе? Да таго ж усім вядома, што Рассельгаснагляд — аграрнае лобі Расіі. А з гэтымі людзьмі жартачкі небяспечныя: быў ужо Грудзінін, старшыня падмаскоўнага калгасу, які на прэзідэнцкіх выбарах у Расіі заняў другое месца… «Я, канешне, яшчэ раз з Данквертам паразмаўляю, але, Рыгоравіч, выбачай: іх чапаць — сабе даражэй», — з перасцярогай сказаў бы Пуцін.

І Лукашэнка, які штогод спісвае пазыкі прадпрыемствам АПК, з ім бы пагадзіўся.

Ну і, зразумела, не абышлі б увагай кіраўнікі краінаў футбол. Уладзімір Уладзіміравіч распавёў бы пра будаўніцтва стадыёнаў, звязаныя з гэтым праблемы і пра тое, колькі гэта каштавала бюджэту Расійскай Федэрацыі. Аляксандр Рыгоравіч, у якога на носе Еўразійскія гульні, уважліва б паслухаў. У нас дабудоўваецца стадыён «Дынама», і невядома, што рабіць з іншымі падобнымі аб'ектамі — стадыёнамі «Трактар» і «Тарпеда». І зноў гаворка б перайшла на адвечную тэму — адкуль узяць грошы. І зноў да пенсійнай рэформы…

І, паразмаўляўшы так гадзінку-паўтары, кіраўнікі дзяржаў выйдуць да прэсы і каротка зачытаюць загадзя падрыхтаваныя «вітальныя лісты» пра тое, як яны добра абмеркавалі праблемныя пытанні.

Вось пра гэта і гаварылі два мужчыны. А хто не верыць, хай паглядзіць праз месяц-два, што змянілася пасля сустрэчы двух кіраўнікоў краін. Калі не зменіцца нічога — дык пра што яны размаўлялі?

22 чэрвеня 2018 | № 23 (586) Новы Час

# Севярынец: абаронцам Курапатаў «трэба прыналегчы»

**Зранку 20 чэрвеня абаронцы Курапатаў і працаўнікі рэстарацыі «Паедзем, паядзім» на запрашэнне Міністэрства культуры наведалі гэтую ўстанову.**



Планавалася, што сустрэча абазначыць выхад з крызісу вакол пабудаванага ля Курапатаў аб'екту грамхарчу. Але ў Мінкульце абаронцы «адчулі бюракратычны лёд», сказаў Павел Севярынец журналістам пасля сустрэчы.

«Чыноўнікі разгубленыя, яны не ведаюць, што рабіць. Аляксандр Яцко, намеснік міністра, нічога па факце не сказаў, ці будзе рабіць Міністэрства культуры штосьці ў сітуацыі з Курапатамі», — адзначыў Севярынец.

Астатнія прысутныя на сустрэчы, у тым ліку Ганна Шапуцька і Уладзімір Раманоўскі, пагадзіліся з пазіцыяй сустаршыні Беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

На думку Севярынца, абаронцаў выклікалі ў міністэрства, проста каб «паказаць, што яны нейкім чынам удзельнічаюць», але на самай справе толькі спасылаліся на бюракратычныя працэдуры і юрыдычныя дэталі. Як мяркуе Севярынец, чыноўнікі «адчуваюць адказнасць за карупцыйную схему, праведзеную праз Міністэрства культуры, і баяцца, што гэта ўсё выплыве», бо чыноўнікі «не бескаштоўна дазваляюць рэзаць ахоўныя зоны і будаваць там аб'екты».

Таксама ад Мінкульту не пачулі нічога пра дзяржаўны конкурс на помнік у Курапатах, зазначыў палітык.

Севярынец таксама сказаў, што прадстаўнікі Міністэрства культуры фактычна маўчаць — не даюць ацэнак сітуацыі, хоць пра канфлікт у Курапатах, кажа ён, «выказаліся дзеячы культуры з усяго свету». Намеснік міністра размаўляў з абаронцамі Курапатаў па-руску.

Абаронцы Курапатаў прапанавалі Мінкульту забараніць працу рэстарацыі і вярнуцца да ахоўных зонаў мемарыялу Курапаты ўзору 2003 года (звужаных пасля пачатку будаўніцтва «Бульбаш-холу» ў межах ахоўнай зоны). Але, як мяркуе Севярынец, такое рашэнне наўрад ці прымаецца ў Мінкульце — хутчэй, вырашаць будзе асабіста Аляксандр Лукашэнка, таму працаўнікам рэстарацыі «трэба прыналегчы».

**Паводле svaboda.org**

# У Брэсце зноў забаранілі акцыі супраць будаўніцтва акумулятарнага завода

**Актывісты падавалі сем заявак на пікеты — усе яны былі адхіленыя, паведамляе Белсат.**

Ініцыятыўная група супраць будаўніцтва акумулятарнага завода прасіла ўлады даць дазвол на правядзенне 22, 23, 25, 27, 28, 29 і 30 чэрвеня пікетаў у цэнтры горада на бульвары Шаўчэнкі. Але чарговым разам група атрымала адмову. Намеснік старшыні гарвыканкаму Вадзім Краўчук спасылаецца на забарону правядзення масавых мерапрыемстваў у цэнтры горада і адзначае, што ў Брэсце ўстаноўлены месцы для правядзення падобных акцый.

Адзначым, што такіх месцаў толькі два, і абодва знаходзяцца на ўскрайку горада. У той жа час улады не забараняюць у цэнтры горада праводзіць ініцыяваныя імі мерапрыемствы. Як і не перашкаджалі 1 траўня праезду па цэнтры горада байкераў з матаклубу «Начныя ваўкі» і шэсцю камуністаў.

Заўважым, што з мноства пададзеных у гарвыканкам заявак на правядзенне масавых мерапрыемстваў супраць акумулятарнага завода задаволеная была толькі адна — на правядзенне мітынгу «Берасцейскі супраць свінцу». Мітынг прайшоў у парку воінаў-інтэрнацыяналістаў і сабраў каля двух тысяч чалавек.

«Улады баяцца вулічнага пратэсту супраць акумулятарнага завода. Наш пратэст усімі сіламі спрабуюць адвесці з вуліцы і схаваць далей ад вачэй берасцейцаў. Гэтая забарона груба парушае наша права на свабоднае выказванне сваіх поглядаў. Мы будзем абскарджваць яго ў судзе і затым у Камітэце ААН па правах чалавека», — заявіў праваабаронца Раман Кісляк.

Жыхары Брэста ўжо паўгода дамагаюцца прыпынення будаўніцтва акумулятарнага завода побач з горадам. Улады будаўніцтва патэнцыйна небяспечнай вытворчасці не спыняюць.

# Крымінальную справу журналіста перадалі ў суд

**Зміцер Галко завяршыў знаёмства з крымінальнай справай, паводле якой ён абвінавачваецца ў гвалтоўных дзеяннях да супрацоўніка міліцыі.**

Справа перададзеная ў суд Савецкага раёна Мінска. Паводле Крымінальна-працэсуальнага кодэксу, суддзя можа вывучаць матэрыялы да двух месяцаў, таму працэс пачнецца ў ліпені-жніўні, мяркуе бацька Змітра Мікалай Галко, паведамляе «Радыё Свабода».

Ён расказаў, што Зміцер па-ранейшаму ўтрымліваецца ў Жодзінскім следчым ізалятары, але перад судом яго перавядуць у мінскі СІЗА № 1 на вуліцы Валадарскага.

«Умовы ўтрымання параўнальна нармальныя, у камеры двое. Праўда, са Змітром быў псіхічна хворы стары чалавек, але адвакат кажа, што таго абяцалі перавесці ў іншую камеру. Ад прагулак Зміцер адмаўляецца, бо лічыць вельмі зневажальным сам "рытуал" — працэдуру вываду на прагулку, калі рукі назад, прымушаюць згінацца лбом да кален і такім чынам перасоўвацца. Што да ежы, кашу на сняданак есці яшчэ можна, пісаў Зміцер, усё астатняе есці немагчыма, на Валадарцы харчаванне значна лепшае», — падзяліўся Мікалай Галко.

Зміцер не прызнаў сваёй віны і наогул нічога, што яму інкрымінуюць, адмовіўся супрацоўнічаць са следствам. Яму не дазволілі ніводнага спаткання з роднымі.

З атрыманнем інфармацыі з волі ёсць праблемы. Радыё ў камеры няма. Сябры выпісалі Змітру «Новы Час», «Белгазету», але прэса не даходзіць, кажа яго бацька.

«Адзін раз прынеслі "СБ. Беларусь сегодня". Лісты быццам даходзяць, але цяжка сказаць, ці ўсе. Мяркуючы па лістах і словах адваката, дэпрэсіі ў сына няма, настрой больш-менш бадзёры. Хаця рука, якую яму пры затрыманні вельмі моцна пашкодзілі міліцыянты, баліць дагэтуль, нават пісаць доўга ён не можа», — гаворыць Мікалай Галко.

Былі праблемы з адвакатамі, кажа ён. Давялося двух першых замяніць, трэцяга адваката параіў БАЖ.

«Першая адвакатка адразу сказала: "Рыць пад міліцыю я не магу, мне мае дадуць па галаве, нідзе мяне не згадвайце, каментары даваць не буду". У другога адваката было вельмі шмат спраў, пастаянна заняты, у яго не было часу пагаварыць толкам з намі, да таго ж ён выставіў сваю версію і не хацеў слухаць ні заўваг, ні пярэчанняў. Трэцяга адваката параіў БАЖ, цяпер усё нармальна. Вельмі шчыльна працуе і са Змітром, і з намі», — кажа Мікалай Галко.

Адвакат мяркуе, што могуць прызначыць «хімію», бо ў Змітра гэта першая крымінальная справа. Хаця дыяпазон пакарання вельмі шырокі, да 6 гадоў зняволення.

***

Інцыдэнт са Змітром Галко адбыўся ў лістападзе 2017 года на мінскай кватэры, дзе ён жыў з сынам Янам. Падчас святкавання дня народзінаў юнака нібыта нехта з суседзяў выклікаў міліцыю з прычыны «празмернага шуму». Зміцер адчыніў дзверы. Паводле версіі сілавікоў, у яго здарыўся канфлікт з міліцыянтам, у выніку чаго быў разбіты мабільны тэлефон супрацоўніка ўнутраных органаў. Галко казаў, што толькі трымаў міліцыянта за руку. Пазней адбыўся адміністрацыйны працэс, журналіста пакаралі за нецэнзурную лаянку.

Пасля інцыдэнту Зміцер і Ян з'ехалі з Беларусі ва Украіну. 22 красавіка падчас вяртання ў Мінск Зміцер Галко быў затрыманы на беларуска-ўкраінскай мяжы і ад таго часу знаходзіцца пад вартай.

Падлеткі праходзяць сведкамі ў справе, на судовы працэс іх павінны выклікаць.

# Эпоха Быкава

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Васілю Быкаву 19 чэрвеня споўнілася б 94 гады. А 22 чэрвеня споўнілася 15 гадоў, як пісьменнік, якога называюць «сумленнем нацыі», пакінуў зямную Беларусь.**

У гэтыя дні адбываецца своеасаблівы «марафон памяці», калі беларусы прыходзяць на магілу Народнага пісьменніка, каб ускласці кветкі, запаліць зніччы, памаліцца і падзякаваць Васілю Уладзіміравічу.

Зранку 19 чэрвеня да каменя на Усходніх могілках прыйшло шмат грамадскіх дзеячаў, літаратараў. Кошык сініх кветак са стужкай у колер нямецкага сцяга пакінула прадстаўніца Германіі, дзе пэўны час жыў Народны пісьменнік.

«Мне пашчасціла быць знаёмым з Васілём Уладзіміравічам, здавалася, яшчэ зусім нядаўна паціскалі рукі адзін аднаму, — распавядае лаўрэат прэміі «За свабоду думкі» імя Васіля Быкава 2016 года рэжысёр Валер Мазынскі. — Быкаў, як і Караткевіч, зрабіў вельмі многа для тых, хто яго ведаў, — ці ўжывую, ці па творах. Гэта (знаёмства з Быкавым. — НЧ.) было сапраўдным гартаваннем асобы і назаўсёды пакідала ў жыцці сцяжынку, па якой можна было ісці больш упэўнена, разумеючы, што ты такое, што для цябе свет, што для цябе Радзіма. Напэўна, апошняе — самае важнае для беларуса, бо не для ўсіх з нас гэта паняцце мае вялікае значэнне. Але сённяшняя моладзь з больш ранніх гадоў, чым маё пакаленне, усведамляе, што такое Радзіма».

Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч зазначыў, што 15 гадоў без Быкава былі гадамі фактычнага замоўчвання яго асобы і творчасці. «Колькі б пра тое ні казалі, няма ў беларускіх гарадах вуліц імя Васіля Уладзіміравіча Быкава, няма помнікаў, не выдадзены збор твораў. Але тым не менш, памяць пра Васіля Уладзіміравіча жыве, і, я думаю, няма ніводнага беларуса, які б не ведаў яго імені», — кажа ён.

Найбліжэйшы сябар Быкава, паэт Анатоль Вярцінскі звярнуў увагу, якім дзіўным чынам у лёсе пісьменніка перапляліся дні нараджэння і смерці, летняга сонцастаяння і пачатку вайны. А Уладзімір Някляеў згадаў, як 15 гадоў таму выбіраў у Фінляндыі камень для помніка Васілю Быкаву. І як апошні раз, калі давялося ўзняць чарку з пісьменнікам, той вельмі смутна выказваўся пра будучыню Беларусі, і «казаў з такім пасылам, як кажуць прарокі». «Тым не менш, Беларусь жыве, і тое, як яна жыве ў гэтым свеце, сведчыць пра нейкі цуд, без нябесных сілаў тут не абышлося. І гэтая нябесная сіла была дадзеная Васілю Уладзіміравічу, які як ніхто выяўляў свой час», — адзначыў Някляеў.

Васіль Быкаў друкаваўся ў часопісе «Полымя», рэдактарам якога ў той час быў Сяргей Законнікаў. «Праўда была святым словам для Васіля Уладзіміравіча, — кажа Законнікаў. — Я вам хачу сказаць шчыра, што мне сорамна сёння перад Васілём Уладзіміравічам за тое, што мы маем сёння на сваёй зямлі. Гэты сорам павінен быць асабістым. Хопіць прыкрывацца калектыўным сорамам — народам ці кімсьці яшчэ, нам кожнаму трэба пагладзець у люстэрка».

«Кожны з нас — звяно ў ланцугу агульнай гісторыі, і ўсе мы пішам сваю старонку. І ёсць асобы, якія вызначаюць прастору, час, эпоху. І будзе эпоха Быкава — тое, на чым будзе выхоўвацца маладое пакаленне, — упэўнена намесніца дырэктара Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры музея Вольга Гулева. — Гэта імя будзе асэнсоўвацца яшчэ доўгія дзесяцігоддзі».

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як наваражыць прыбытак

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У статыстыцы можна раскідаць лічбы па розных паказчыках і дакументах, тады яны выглядаюць не вельмі ўражліва. Недзе там «недапрацавалі», недзе тут «недалічылі», а вунь там «не паднялі». Але, калі сабраць усё разам, малюнак выглядае даволі небяспечна.**



Фота www.pdsnpsr.ru

Міжволі задумаешся, куды нас прывёў наш «беларускі эканамічны цуд».

Як падлічыла інфармацыйнае агенцтва БелаПАН, Беларусь да 2025 года павінна накіраваць на абслугоўванне і пагашэнне дзяржаўнага доўгу 23,5 млрд долараў. У прыватнасці, у 2019 годзе плацяжы складуць каля 3,6 млрд долараў, у 2020-м — 3,78 млрд, у 2021-м — 3,54 млрд, у 2022-м — 3,6 млрд, у 2023-м — амаль 4 млрд. Гэта — наступствы тых пазыкаў, якія мы бралі без разбору для ажыццяўлення «айчыннай эканамічнай мадэлі». Яна ўся была пабудаваная на знешняй дапамозе — і зараз мы за гэта павінны расплачвацца.

Пабачыўшы такую навіну, беларусы пачалі думаць, адкуль узяць грошы. Паступіла некалькі прапановаў. Першая: прадаць што-небудзь непатрэбнае — напрыклад, рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы і «сірочыя» пасёлкі сціплых чынуш, перавесці на самазабеспячэнне хакей і пазбавіцца парадаў і "Дажынак". То бок — зацягнуць паясы. І другая прапанова — адмяніць пенсіі і ўвесці падатак на паветра, а за затрымку дыхання — штрафаваць.

Якім шляхам пойдуць улады? Падавалася б, відавочна, што не першым. Але гэта, насамрэч, далёка не відавочна.

У аналітычным аглядзе Нацбанка «Фінансавая стабільнасць у Рэспубліцы Беларусь у 2017 годзе», які быў апрылюднены днямі, гаворыцца, што шляхам новых падаткаў пайсці будзе вельмі складана. У дакуменце зазначаецца: высокая крэдытная актыўнасць беларусаў, якая назіралася ў 2017 годзе і падтрымлівалася мяккімі цэнавымі ўмовамі крэдытавання, можа прывесці да пагаршэння плацежнага балансу краіны і сітуацыі на валютным рынку. Крэдытная запазычанасць фізічных асоб у нацыянальнай валюце ў 2017 годзе вырасла на 26,7% (за 2016 год — на 4,3%). Прырост у асноўным адбываўся за кошт спажывецкага крэдытавання — на 75,1% (за 2016 год — на 3,5%). Што тычыцца гэтага года, то крэдытныя даўгі беларусаў перад банкамі бяруць планку за планкай. На 1 мая запазычанасць фізічных асоб па спажывецкіх крэдытах у чарговы раз пабіла рэкорд і перавысіла 9750,4 мільёна рублёў.

Такія пазыкі беларусаў сведчаць пра адно — у насельніцтва ўжо проста няма грошай. 75% менавіта спажывецкага крэдытавання азначаюць, што людзі не могуць за свой заробак дазволіць сабе набыць хай, можа, не элементарныя, але рэчы. І вымушаныя звяртацца да банкаў па крэдыты і растэрміноўкі. А таму грошай на «падатак на паветра» ў іх няма тым больш.

Канешне, народ можа гэтыя грошы зарабіць. Але як і дзе? Згодна той жа справаздачы галоўнага фінансавага рэгулятара, асноўны ўплыў на рост долі праблемных актываў банкаў аказваюць прадпрыемствы дзяржаўнай формы ўласнасці. Аб'ём праблемных актываў дзяржаўных прадпрыемстваў на 1 студзеня 2018 года дасягнуў 3,2 мільярда рублёў, а ўдзельная вага пазыкаў дзяржпрадпрыемстваў у праблемных актывах банкаўскага сектара склала 58%.

«У гэтай сувязі рызыкі, якія нараджаюцца праблемнымі дзяржаўнымі прадпрыемствамі рэальнага сектара эканомікі, з'яўляюцца патэнцыйнай пагрозай фінансавай стабільнасці ў краіне», — канстатуе Нацбанк. Па выніках бягучых адзнак доля ўсіх абавязацельстваў дзяржпрадпрыемстваў — найбуйнейшых крэдытных пазычальнікаў, якія з высокай ступенню верагоднасці не змогуць разлічвацца па іх самастойна, склала 14% у адносінах да ВУП.

Нацбанк піша, што «адбылося значнае пагаршэнне якасці актываў прадпрыемстваў апрацоўчай прамысловасці — праблемныя активы павялічыліся з 17,8% да 22,6%, а праблемныя актывы сельскагаспадарчай галіны заставаліся на досыць высокім узроўні (21,8%). Гэта сведчыць аб стабільна нездавальняючым стане шэрагу прадпрыемстваў галін рэальнага сектара», — канстатаваў рэгулятар.

То бок, народ, можа, і мог бы зарабіць грошы. Аднак прадпрыемствы, на якіх ён працуе і атрымлівае заробак, самі гаротныя не менш за той народ. Калі прадпрыемства ў пазыках — яно наўрад ці будзе плаціць працоўнаму нармальны заробак. Калі працоўнаму не плаціць нармальны заробак — ён не будзе набываць прадукцыю прадпрыемства. Калі ў прадпрыемства не набываюць прадукцыю — яно не можа далей працаваць і плаціць заробак. Недзе так і атрымліваецца.

Пры гэтым у нас чамусьці расце ВУП. За студзень — травень гэтага года ён, згодна дадзеным Нацыянальнага статыстычнага камітэта, вырас аж на 4,7% да ўзроўню такога ж перыяду мінулага года. Амаль 5% — гэта вам не жартачкі.

Ці, можа быць, усё ж жарты? Бо, паводле дадзеных таго ж камітэта, які мы называем Белстатам, па выніках першых чатырох месяцаў гэтага года прыбыткі беларускіх прадпрыемстваў упалі больш чым на 40%.

Як такое можа быць? ВУП расце, значыць, расце прадукцыйнасць працы і колькасць прадукцыі. А прыбытак — падае? Вельмі проста: калі наш ВУП лічыцца ад створаных, а не прададзеных тавараў. Гэта азначае, што нашы прадпрыемствы працуюць на склад, што наша прадукцыя нікому не патрэбная, і (зноў жа) што ў людзей няма грошай, каб гэтую прадукцыю купляць.

Але беларусы — вялікія вынаходнікі выкручвацца. Напрыклад, у Гомельскай вобласці з пачатку лета была жудасная засуха. Паводле самых сціплых падлікаў, высахла 60 тысяч гектараў збожжа. У Веткаўскім раёне даведзеныя да адчаю людзі правялі абрад «скараджэння ракі». Гэтаму абраду сотні гадоў. Прымаць удзел у ім могуць толькі ўдовы ці чыстыя дзяўчыны. «Скарадзіць раку» — гэта апошні сродак, калі спадзявацца больш няма на што.

Можа быць, гэта і смешна, але праз 10 гадзін пасля абраду над Беларуссю пачаўся той самы доўгачаканы дождж.

Выснова відавочная: трэба накіроўваць дзяржаўныя субсідыі не стратным прадпрыемствам на падтрымку іх стратнасці, а на правядзенне навуковых даследаванняў у галіне этнаграфіі і фальклору Беларусі. Можа быць, этнографы, фалькларысты і антрополагі расшукаюць нейкія абрады ў тым жа Веткаўскім раёне, каб палепшыць фінансавае становішча нашай прамысловасці. Можа, духі прадкаў дапамогуць справіцца з пазыкамі?

Больш спадзявацца, падаецца, няма на што.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Статкевіч



**Экс-палітвязень, адзін з лідараў Беларускага нацыянальнага кангрэсу заклікаў суайчыннікаў па-свойму адзначыць Дзень вызвалення Мінска.**

«У мінулым годзе 3 ліпеня мы выйшлі на Кастрычніцкую плошчу, каб нагадаць, што ўсе святы ў краіне адабраныя Лукашэнкам. Але была і дадатковая актуальная праблема — расійскія вучэнні. У гэтым годзе такая праблема — Курапаты. Калі б не масавыя рэпрэсіі 1937 года, то, магчыма, і вайны б не было. Колькі перспектыўных маладых палкаводцаў былі расстраляныя і ляжаць у ямах не толькі ў Курапатах, але і на тэрыторыі Парку Чалюскінцаў», — сказаў Статкевіч і прапанаваў неабыякавым беларусам адзначыць 3 ліпеня ля Парку Чалюскінцаў у Мінску.

«Акцыя — наш адказ на сітуацыю вакол Курапатаў і адказ уладам, якія спекулююць на нацыянальнай трагедыі», — сказаў Статкевіч у каментары belsat.eu.

Пры гэтым у сваім фэйсбуку палітык адзначае, што 3 ліпеня — дзяржаўнае свята. «Што за незалежнасць яны святкуюць, ад каго? Краіна акупаваная, штогод чалавек у форме ката стаіць на парадзе (міністр Шуневіч у форме НКУС. — рэд.)... Усім зразумела, што Беларусь 3 ліпеня 1944 года не стала незалежнай дзяржавай... Трэба мець смеласць называць рэчы сваімі імёнамі. Трэба вярнуць датам і сімвалам іх першапачатковы сэнс», — піша Статкевіч.

## Віктар Пракапеня



**Знакаміты беларускі IT-прадпрымальнік у інтэрв'ю DEV.by выказаўся з нагоды рэстарана «Паедзем, паядзім» ля Нацыянальнага некропалю Курапатаў.**

Пракапеня прапанаваў байкатаваць усе рэстараны ўладальнікаў «Паедзем, паядзім». «Рэстаран у Курапатах павінен быць зачынены, прычым не дзяржавай, а ўладальнікамі бізнесу. Пакуль гэта не зроблена, прапаную ўсім сацыяльна адказным беларусам байкатаваць рэстараны групы: «The View», «Гранд Кушавель» і, вядома, рэстаран «на касцях», — сказаў Пракапеня.

Па яго словах, адна з самых вялікіх праблем развіцця эканомікі Беларусі — гэта адсутнасць дыялогу паміж бізнесам і ўладай. Шмат у чым гэта вынік таго, што ўлада лічыць, што ўсе бізнесмены — на іх слэнгу «комерсы» — сацыяльна безадказныя людзі, зацікаўленыя толькі ў атрыманні прыбытку. «Гэта не так. У нас шмат бізнесменаў, якія любяць краіну і выдатна разумеюць, што грошы гэта нішто ў параўнанні з дабрабытам нашага вялікага дома, які называецца Рэспубліка Беларусь», — адзначыў Пракапеня.

«Тым не менш, ёсць на рэдкасць амаральныя і безадказныя людзі, якія дазваляюць сабе такія выхадкі, як будаўніцтва рэстарана «на касцях». Нашаму грамадству як ніколі важна рухацца ў зваротны кірунку і павялічваць давер паміж уладай і бізнесам — ствараючы больш гісторый глыбокай сацыяльнай адказнасці бізнесу. Вялікія грошы — гэта не толькі вялікія магчымасці, але і вялікая адказнасць», — выказаўся Пракапеня.

## Вікторыя Азаранка



**Экс-першая ракетка свету ў першым крузе турніру WTA International на Мальёрцы абыграла Стэфані Фогель: 6:7, 6:3, 7:5.**

Але, па словах самой Азаранкі, яе вяртанне ў вялікі тэніс праходзіць даволі складана, і пакуль хуткіх поспехаў чакаць не даводзіцца. «Было няпроста. Я не так шмат матчаў правяла за апошні час, а першы матч на траве заўсёды цяжкі. Так што я проста рада, што змагла пазмагацца», — падвяла Азаранка вынікі матчу.

«Такія матчы непазбежныя, асабліва для мяне цяпер, калі я даўно не гуляла і выбілася з рытму. Ёсць вельмі шмат дэталяў, у якіх мне яшчэ трэба дадаць. Але сёння ключом стаў байцоўскі дух. Для мяне гэта крок наперад, і ён мне даўся з цяжкасцю, таму што ў мяне цяпер усе матчы складаныя. Так што мне трэба змагацца за тое, каб у кожным матчы знайсці рытм, але я гатовая. Спадзяюся, што наступіць момант, калі гульня прыйдзе, але пакуль што гаворка толькі пра тое, каб не пераставаць змагацца», — кажа Азаранка.

а Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Колькі слоў пра спецыфіку грамадскіх адносін

**Намі і цяпер кіруюць тыя, хто нарадзіўся ў СССР. Намі кіруюць «паважаныя людзі», якія сядзяць на дэфіцыце... улады.**

Большасць з нас мае добрую рэпутацыю ва ўласных вачах. Гэтую ісціну я запазычыў з падручніка па сацыяльнай псіхалогіі амерыканца Дэвіда Маерса. Сацыялагічныя апытанні яе пацвярджаюць. Калі папрасіць рэспандэнтаў параўнаць асабістыя якасці з якасцямі навакольных, дык нескладана здагадацца, у якім выпадку працэнт станоўчых, а ў якім негатыўных якасцяў апынецца вышэй. У прыватнасці, у 2005 годзе 52% расіян палічылі сябе гасціннымі, у той час як такіх людзей вакол сябе яны прыгадалі 36%. Зайздроснымі сябе назваў 1%, а навакольных «зайздроснікаў» было аж 23% (тут і далей прыводзіцца дадзеныя Лявада-Цэнтра).

Лацінская прымаўка «Vox populi vox Dei» («Голас народа — голас Божы») у век панавання электронных СМІ страціла сваю актуальнасць, бо тое, што па звычцы прынята лічыць грамадскай думкай, па факце з'яўляецца толькі рэхам медыйных падзей. Таму не варта здзіўляцца, што пасля «Крымнаш» у ацэнцы міралюбнасці і гатоўнасці прыйсці на дапамогу два брацкія народы, на думку расіян, кардынальна разышліся: 41% і 47% расіян знайшлі ў сябе гэтыя якасці, а ва ўкраінцаў — толькі 10% і 7% (верасень 2014 года). Пры такіх адрозненнях у ацэнках найбольш верагоднай формай камунікацыі з'яўляецца вайна, што на практыцы і назіраецца.

Цікавыя вынікі апытання, праведзенага ў сувязі з чэмпіянатам свету па футболе. Шанцы на перамогу сваёй каманды, якая апынулася ў рэйтынгу ФІФА на апошнім месцы сярод удзельнікаў фінальнай стадыі чэмпіянату, расіяне ацанілі вышэй за зборныя Германіі і Бразіліі: 14%, 13% і 12% адпаведна.

Для параўнання прывяду прагноз банка Goldman Sachs. Выкарыстаўшы 200 статыстычных мадэляў, прааналізаваўшы дадзеныя па ўсіх гульцах і апошнія вынікі камандных матчаў, аналітыкі банка ў спісе верагодных пераможцаў на першае месца паставілі зборную Бразіліі (18,5%), якая ў фінале сустрэнецца са зборнай Германіі (10,7%). Шанцы зборнай Расіі на выхад з групы былі ацэнены ў 33,5%, а на перамогу ў фінале — 0,7%.

### Гульня ў «сапсаваны тэлефон»

Але пакінем варажбу на кававай гушчы з нагоды будучага пераможцы ЧС–2018 заўзятарам і перамесцімся з футбольных палёў на поле палітычнае. Дакладней, на тое, што прынята ў Беларусі лічыць такім, бо ў краіне, у якой правам займацца палітыкай надзелены, паводле Канстытуцыі, толькі адзін чалавек, палітыкі не можа быць па азначэнні.

Гэты чалавек, што цалкам натуральна, таксама мае добрую рэпутацыю ва ўласным успрыманні. Прынамсі я не прыгадаю ні аднаго выпадку, калі б ён крытыкаваў свае рашэнні. Крытыкаваць сваіх падначаленых за бяздзейнасць — гэта калі ласка, за памылковыя рашэнні — вельмі рэдка.

Прычына адсутнасці рэгулярнай крытыкі адзіным палітыкам (АП) рашэнняў сваіх падначаленых — не таямніца: уладная «вертыкаль» вось ужо чвэрць стагоддзя існуе ў Беларусі не для прыняцця рашэнняў, а для іх выканання. Гэта выканаўчая «вертыкаль». Таму з якой бы колькасці ўзроўняў яна ні складалася, якая б ні была колькасць яе чальцоў, — але сінэргетычнага эфекту, калі вынік узаемадзеяння некалькіх фактараў аказваецца вышэй за сумы дзеянняў кожнага з іх, чакаць ад «вертыкалі» не даводзіцца.

Наадварот, у рэжымах, якія абапіраюцца на ўладную «вертыкаль», пашырэнне колькасці яе ўдзельнікаў павышае верагоднасць скажэння кіраўнічага сігналу. Тут напрошваецца прамая аналогія з дзіцячай гульнёй у «сапсаваны тэлефон».

«На кожным адрэзку ўладнай іерархіі, — тлумачыць гісторык Аляксандр Галкін, — непазбежна ўзнікаюць адхіляючыя «шумы», якая выклікаюць групавымі або індывідуальнымі інтарэсамі, што нярэдка не супадаюць з інтарэсамі вярхоўнай улады. У крытычных сітуацыях такая «шумы» настолькі моцныя, што сутнасць зыходнага імпульсу губляецца ўжо на верхніх прыступках іерархічнай структуры».

На барацьбу з «шумамі» ўладная «вертыкаль» вымушана накіроўваць значную частку сваіх рэсурсаў. На практыцы гэта азначае стварэнне шматлікіх службаў, якія дублююць і кантралююць адна адну. Так запускаецца «дурная бясконцасць» кантролю над кантралёрамі.

### Незасвоены ўрок

АП любіць разважаць на тэму дынамічнага развіцця «беларускай мадэлі». Звернемся да тэксту Паслання–2018. Дынамічнае развіццё традыцыйных і новых галін, дазволіць Беларусі «заняць годнае месца ў глабальных працэсах». Айчынная нарматворчасць — «жывы і дынамічны працэс, такі ж, як і само жыццё». У беларускага турызму, медыцыны і спорту «ёсць усе магчымасці для дынамічнага нарошчвання іх экспартнага складальніку». Наша з Кітаем «дынамічная сувязь пашыраецца і па колькасці, і па якасці».




Наступная цытата наўпрост звязвае «вертыкаль» у якасці адзінага суб'екта «беларускай мадэлі» з дынамікай: «Усёй выканаўчай вертыкалі трэба будзе вырашыць задачу — аказваць усебаковую дапамогу бізнесу ў стварэнні новых прадпрыемстваў і вытворчасцяў, якія забяспечаць пазітыўную дынаміку развіцця кожнага рэгіёну краіны».

Вось такая накіраванасць у будучыню з дапамогай сродкаў нават не ўчарашняга, а заўчарашняга дня. Як мы бачым, урок распаду СССР з яго звышцэнтралізаванасцю ўладальнік дыплома гістарычнага факультэта Магілёўскага педагагічнага інстытута па спецыяльнасці «выкладчык гісторыі і грамадазнаўства» не засвоіў.

У сучасных умовах — што відавочна дэманструе міжнародны вопыт — цэнтралізацыя, уласцівая ўладнай «вертыкалі», у прынцыпе супярэчыць дынаміцы. Калі руцінныя праблемы «вертыкаль» яшчэ хоць неяк здольная разрульваць, дык перад новымі выклікамі яна пасуе. Адна справа — перадаваць кіраўніцкія рашэнні, што прымаюцца наверсе, і зусім іншае — самастойна прымаць рашэнні ў аператыўным рэжыме.

### Эканоміка «паважаных людзей»

Прыгледзімся да сучаснай дынамікі на прыкладзе кампаніі Amazon, якая мае найбуйнейшы ў свеце абарот сярод тых, што прадаюць тавары і паслугі праз інтэрнэт. Створаная ў 1994 годзе амерыканскім прадпрымальнікам Джэфам Безасам, яна першапачаткова спецыялізавалася на гандлі кнігамі. У ліпені 2011 года рынкавая капіталізацыя Amazon упершыню перавысіла 100 мільярдаў долараў, а да лютага 2018-га — 700 мільярдаў долараў, апярэдзіўшы Microsoft Біла Гейтса.

Вось такая дынаміка! Пакуль АП з года на год паўтарае свае мантры на тэму «жалезнай дысцыпліны», сучасныя буйныя кампаніі актыўна асвойваюць рэінжынірынг, найважнейшым прынцыпам якога з'яўляецца дэцэнтралізацыя. Выканаўцы бяруць на сябе адказнасць там, дзе раней ім даводзілася звяртацца да кіраўніцтва. Усё гэта дазваляе арганізацыям працаваць як адзінае цэлае, павялічваючы эфектыўнасць працы.

Сучасныя дэцэнтралізаваныя кампаніі ўладкаваныя зусім не так, як раней. Медыйны гігант Facebook не вырабляе свайго кантэнту, у Uber няма ўласнага аўтапарку. Затое ў такіх гульцоў значна больш прасторы для росту, бо яны валодаюць перавагамі на прыкладаннямі да мабільных тэлефонаў, а не велічэзнай інфраструктурай і матэрыяльнымі рэсурсамі.

«Эканоміка бітаў адрозніваецца ад эканомікі атамаў, — тлумачаць амерыканцы Эндру Макафі і Эрыка Брынальфсана, аўтары кнігі «Машына, платформа, натоўп. Як падрыхтавацца да нашай тэхналагічнай будучыні». — Як толькі мы аблічбавалі інфармацыю, няхай гэта будзе тэкст або фільм, можна зрабіць бясконцую колькасць копій, якія будуць ідэнтычныя арыгіналу. Іншы важны фактар лічбавай эканомікі — яна не залежыць ад адлегласці. Перадаць інфармацыю з Грэнландыі ў Антарктыду не складаней, чым у суседні пакой».

Але кругагляд беларускіх кіраўнікоў мала чым адрозніваецца ад кругагляду савецкіх «чырвоных дырэктараў», якія думалі не пра прыбытак, а пра тоны і штукі. Насуперак прапагандзе, яны не змагаліся з дэфіцытам, а свядома яго падтрымлівалі, бо толькі распарадчык дэфіцыту мог прэтэндаваць на статус «паважанага чалавека».

Як тут ні працытаваць фрагмент з маналогу Міхаіла Жванецкага «Дэфіцыт»: «У тэатры прагляд, прэм'ера ідзе. Хто ў першым шэрагу сядзіць? Паважаныя людзі сядзяць: загадчык складам сядзіць, дырэктар крамы сядзіць, ззаду таваразнаўца сядзіць. Усё гарадское начальства загадчыка складам любіць, шануе. За што? Загадчык складам на дэфіцыце сядзіць! Дэфіцыт — вялікі рухавік грамадскіх спецыфічных адносін».

Больш глыбокага аналізу прыроды савецкай эканамічнай мадэлі я ў сваім жыцці не сустракаў!

Здавалася б, тыя часы назаўжды засталіся ў мінулым. За чвэрць стагоддзя вырасла пакаленне, якое не ведае, як гэта — душыцца ў чэргах за кавалкам каўбасы. Усё і так, і адначасова не так. Намі па-ранейшаму кіруюць тыя, хто нарадзіўся ў СССР. Намі кіруюць «паважаныя людзі», якія сядзяць на дэфіцыце... улады. І ў гэтым сэнсе нічога не змянілася. Была народная дзяржава. Стала дзяржава для народа. Але галоўны загадчык складам як сядзеў на дэфіцыце, так і сядзіць.

Раней яго абіралі на безальтэрнатыўнай аснове. У сучаснай Беларусі, калі меркаваць па колькасці прозвішчаў у бюлетэнях для галасавання, дэмакраты не менш, чым на Захадзе, што, аднак, не адмяняе спецыфіку грамадскіх адносін, якую сфармаваў дэфіцыт.

# Ці вырасце ў Курапатах беларуская «Салідарнасць»?

## Нататкі антраполага

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Курапаты — не толькі месца пахавання ахвяраў сталінскіх рэпрэсій. Гэта яшчэ і істотны чыннік сучаснай беларускай нацыятворчасці. Калі б не іх адкрыццё артыкулам Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва, думаю, Беларусь не пераадолела б інерцыю «Вандэі Перабудовы».**




У лепшым выпадку, ціхенька выйшла б са складу Расіі дзе-небудзь у 2000-х, як Чарнагорыя аддзялілася ад Сербіі. А яшчэ больш верагодна — заставалася б суб'ектам РФ да сёння, і не было б ніякага нацыянальнага адраджэння, а беларускі рух меў бы такі ж малы маштаб, як спроба заявіць пра сабе тудаўлянам ці цвярскім балтам.

На мой погляд, менавіта ў Курапатах выспявала наша грамадзянская супольнасць. Гэта абаронцы Курапатаў, грамадскасць, у 2002-м паўплывалі на перанос кальцавой дарогі, у 2012-м не дапусцілі адкрыцця «Бульбаш-холу» (ужо тады ўсё было гатова да пачатку працы), у 2017-м спынілі будаўніцтва бізнес-цэнтру ў ахоўнай зоне мемарыялу. Тое, што ахоўныя зоны былі зменшаныя з парушэннямі, таксама стала вядома дзякуючы грамадскім актывістам, як і імёны бізнесоўцаў, што маюць дачыненне да рэстарацыі «Паедзем, паядзім». За Курапатамі — ідэя, здольная яднаць жыхароў Беларусі, ідэя асуджэння сталінізму, гвалту і хлусні.

Гэта ідэя пакуль не стала мейнстрымам. Не было нічога кшталту Нюрнбергскага суду над камунізмам, таму гучаць думкі пра Сталіна як геніяльнага менеджара і захапленне тым, што ў СССР быў «парадак». Мне здаецца, без такога кшталту суду Беларусь сама асуджаная на вечнае азіранне назад і жыццё на раздарожжы гісторыі, на тую самую стабільнасць, якая — застой.

Павінна быць вядома ўсім і кожнаму: хваліць Сталіна ў прыстойным грамадстве — гэта кепскі тон. Як з мізагіннымі ці гамафобнымі выказваннямі ў Еўропе і ЗША: зразумела, што не ўсе прымаюць людзей адрознай ад іх сексуальнай арыентацыі, а камусьці вельмі хочацца, каб дзейнасць жанчын не выходзіла за межы кухні, кірхі і выхавання дзяцей. Але сказаць пра гэта публічна — значыць панесці незваротныя рэпутацыйныя страты.

Дык вось пра рэпутацыю. Ужо цяпер уладальнікі «Паедзем, паядзім» зарэгістравалі «левую» фірму, баючыся раскрыць свае імёны. На думку Віктара Марціновіча, гэта была спроба атрымаць дармовы піяр, які, меркавалі, на чорны і белы не дзеліцца, таму адкрыццё і прымяркоўвалі да даты выхаду артыкула Пазняка і Шмыгалёва. Спадзяваліся, што «апазіцыя» пашуміць — і супакоіцца. А не тут-та было. Пратэсты працягваюцца, дні варты падзялілі між сабой сем арганізацый, і мне хочацца бачыць у курапацкіх пратэстах зародак арганізацыі кшталту польскай «Салідарнасці».

У 1980-х гадах польскія антыкамуністычныя сілы з'ядналіся і дамагліся дэмакратычных зменаў. Нягледзячы на ўвядзенне ваеннага рэжыму!

Пытанне, ці сапраўды грамадзяне нашай краіны здолеюць дамовіцца. Спачатку — хаця б пра метады барацьбы. Павал Севярынец і, умоўна, «радыкалы», што гатовыя рызыкаваць здароўем, не прапускаючы машыны ў рэстарацыю, vs Зміцер Дашкевіч і, умоўна, «лібералы», якія за асвету і негвалтоўны супраціў. Здаецца, радыкальнасць адштурхвае патэнцыяльных абаронцаў.

З аднаго боку, у Курапатах не так і мала народу: у варце 2001–2002 гадоў адначасова ўдзельнічала ад 2 да 20 чалавек, у 2017-м першы намёт паставілі шасцёра энтузіястаў.

З другога боку, малалюдны пратэст дазваляюць сабе «не заўважаць» дзяржаўныя медыя, і ёсць ілюзія, што грамадства яго не падтрымлівае. Чаму лайкаў у сацсетках больш за абаронцаў? Дзе ўсе гэтыя людзі? На Дзень Волі ў Мінску прыйшлі тысячы, на мітынг у Курапатах 3 чэрвеня — сотні. Дзе яны цяпер, што не так з вартай?

Марыюш Машкевіч, дзеяч «Салідарнасці», амбасадар Польшчы ў Мінску, затрыманы на Плошчы–2006 і з таго часу неўязны ў Беларусь, казаў, што палякаў у барацьбе супраць камуністаў аб'яднала рэлігія. Што мы бачым у нашым выпадку? Прапанаваны Змітром Дашкевічам аргумент: «кроў нявінна забітых штодня кліча да Бога» — зусім не аргумент для асноўнай масы насельніцтва нашай краіны, веравызнанне якой можна, бадай, вызначыць як «праваслаўны атэізм». Гэта не аргумент і для інтэлектуалаў-агностыкаў.

**Пасля аргумента «на Радуніцу людзі ядуць на могілках — і што?», мне хацелася распавесці, што Радуніца — гэта фактычна дахрысціянская трызна, што мае на мэце ўшанаванне памерлых родных, яднанне з імі пры стале, а не абразу нявінна забітых**

Так, самыя актыўныя грамадскія дзеячы і рухі незалежнай Беларусі так ці інакш звязаныя з рэлігіяй: КХП-БНФ, праваслаўны Севярынец, пратэстант Дашкевіч... Больш за тое, магчыма, за пратэстантамі будучыня беларушчыны: каля паловы беларускамоўных дзяцей у Мінску — з іх сем'яў, дзякуючы заахвочванню шматдзетнасці. Але рэлігійныя ідэі далёкія для большасці жыхароў Беларусі!

Вось супрацоўніца «Паедзем, паядзім» Святлана кажа, што верніца, і рэгулярна ходзіць да касцёла. Але гэта не замінае ёй працаваць у такім месцы! Далей — больш. 18 чэрвеня, падчас варты грамадскай ініцыятывы «Альтэрнатыва», я гутарыла з начным ахоўнікам. Гэта не той, які ўмоўны Дзіма.

Імя не пытала, бо дужа малы шанец пачуць сапраўднае. Мужчына чытае газеты «Народная Воля» і «Свободные новости», вельмі любіць артыкулы Калінкінай і Фядуты, а некаторыя факты пра Курапаты памятае дакладней за мяне. Што не замінае яму працаваць у «Паедзем, паядзім» і казаць, што побач — «проста могілкі, і ўвесь Мінск на костках». І забываецца на прачытанае ў любімых газетах, ці бачыць там толькі тое, што хочацца бачыць.






Абіраючы тактыку размаўляць, а не станавіцца пад машыны, варта мець гэта на ўвазе. Мы прызвычаіліся да чорна-белага свету, свету бінарных апазіцый: ці прыхільнік апазіцыі, ці рэжыму, ці мярзотнік, ці святы... Людцы, як антраполаг вам кажу: структуралізм Леві-Строса ўжо не ў модзе! Цяпер даследчыкі следам за Леанарда Прэміяна пішуць пра вернакулярнасць — індывідуальны для кожнага набор ідэнтычнасцяў ва ўсіх сферах, ад рэлігійных уяўленняў да палітычных. Несумяшчальныя, на першы погляд, рэчы могуць выдатна сумяшчацца ў асобна ўзятай галаве.

Я шчыра спрабавала данесці да ахоўнікаў думку пра тое, што Курапаты — месца праклятае, і ў той жа час святое, маючы на ўвазе тэорыю Мэры Дуглас. Так, Мінск стаіць на костках. Але ці ж гэта добра? Курапаты — не звычайныя закінутыя могілкі, якія ўжо няма каму даглядаць. Гэта месца пахавання нявінных людзей, што памерлі гвалтоўнай смерцю, і мы дасюль не ведаем іх імёнаў. Гэта месца памяці для кожнага грамадзяніна Беларусі.

Я расказвала пра нацыстаў, якія «проста выконвалі загад», але атрымалі гарамадскае асуджэнне і турэмныя тэрміны. Пасля аргумента «на Радуніцу людзі ядуць на могілках — і што?», мне хацелася распавесці, што Радуніца — гэта фактычна дахрысціянская трызна, што мае на мэце ўшанаванне памерлых родных, яднанне з імі пры стале, а не абразу нявінна забітых, як рэстарацыя ў ахоўнай зоне Курапатаў. Але я стрымала ўнутранага антраполага, каб занадта не разумнічаць.

Шкадую, што не пераказвала шматлікія гісторыі, пачутыя ў этнаграфічных экспедыцыях пра тое, як людзі, што здымалі крыжы ці званы з царквы ў часы барацьбы з рэлігіяй, кепска заканчвалі. Карацей, прыходзьце ў Курапаты і размаўляйце, гэта цікава! І даволі эфектыўна.

Сама назірала, як машыны разварочваліся і з'язджалі, атрымаўшы ад кіраўніка грамадскай ініцыятывы «Альтэрнатыва» Алега Корбана ксеракопіі буклетаў і тлумачэнні сітуацыі.

Праўда, Іван Ермакоў, пераканы сталініст, усё ж праехаў. Па словах абаронцаў, ён — сталы кліент «Паедзем, паядзім», наведвае рэстарацыю амаль штовечар. Каля 21.00 у панядзелак яго аўто — адзінае на рэстаранным паркінгу для кліентаў.

Пераломным момантам абароны–2017 стала прыкоўванне сябе кайданкамі да будаўнічай тэхнікі Сяргеем Пальчэўскім. Што будзе сёлета?

22 чэрвеня 2018 | № 23 (586) Новы Час

# Ленд-ліз

## У юбілейных прамовах не любяць згадваць ні пра саюзнікаў, ні пра дапамогу

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Закон пра ленд-ліз быў зацверджаны Кангрэсам ЗША ў сакавіку 1941 года і дазваляў аказваць эканамічную дапамогу любой краіне. Падчас Другой сусветнай вайны паняцце «ленд-ліз» перанеслі на ўсе саюзніцкія пастаўкі ў савецкую краіну.**

У маленькай вёсцы Аксаміты, што на Капыльшчыне, нашым суседам быў удзельнік вайны дзядзька Коля Вадап'ян (1914–1999). Ён дайшоў да Берліна, ваяваў у Маньчжурыі і ўсе вайсковыя перасоўванні і падзеі занатоўваў у блакноце (дзеці, на жаль, яго не захавалі). Меў высокія ўзнагароды і тры цяжкія раненні, насіў у спіне восем аскепкаў. Падчас медправеркі ў ветэрана заўважылі пацямнеласці ў лёгкіх. Абласныя ўрачы ўнеслі яснасць: гэта астаткавая з'ява ад ранення, раскладаецца жалеза.

Тым не менш, у франтавіка адабралі трэцюю групу інваліднасці. Ён пачаў пісаць, скардзіцца, дапісаўся да Масквы. Тады сам старшыня Савета міністраў Казлоў з экскортам на дзвюх «Волгах» і двух «Уазіках» завітаў у вёску. У выніку праверкі старшыню калгаса знялі з працы, а Вадап'яну далі другую групу. На час яго смерці ваенкамат не знайшоў сродкаў, каб дастойна, па чыну, пахаваць ветэрана.

Дзядзька Коля быў лепшым у акрузе сталяром. Пад паветкай размяшчалася майстэрня, заўсёды поўная духмяных стружак. Многае з інструменту было самаробным. У сына захавалася дзевяць акуратненькіх, лёгкіх лучковых піл і некалькі наждак. Палотны наразаліся з дапамогай амерыканскага станка. Усё астатняе ў гаспадарцы было нямецкае: плуг, сошка, сячкарня, кацялок, лічыльнік і нават нажнічкі.

Цяжка сказаць, як да чалавека прыйшлі ўсе гэтыя рэчы.



Шмат дабра навезлі з Германіі франтавікі і вывезеныя на прымусовую працу беларусы, нешта прывёз сам гаспадар. Безумоўна, без амерыканскай дапамогі тут не абышлося. Без таго самага ленд-лізу, пра які так неахвотна ўспамінаюць сёння.

Пра паліто, боты і яркія кітайскія сукеначкі прыгадвалі знаёмыя дзетдомаўкі з Мінска — Надзея Юльская і Вольга Далгачова. Прадуктовыя пайкі атрымлівалі інваліды вайны. Прыходзілі пасылкі на сельсаветы і па чарзе размяркоўваліся паміж маламаёмаснымі. Да 1970-х гадоў беларускія кабеты насілі «плюшаўкі» з саюзніцкіх паставак. У паэме «Лодачкі» Ніл Гілевіч распавёў пра туфлі сястры, атрыманыя з такой пасылкі. Яна не магла дачакацца, пакуль дарасце да абноўкі, аднак туфлікі давялося прадаць, каб старэйшаму брату было што апрануць у вучылішча. Лагайчанка Вольга Васюковіч, калі выкладала ў пачатковых класах на Бягомельшчыне, прыгадвае слоікі з канфіцюрам, якія выдаваліся вучням. «Нам дапамагалі амерыканцы», — пацвярджае яна. Лідзія Курто запомніла «імпартныя» паўзункі, у якіх жанчыны адразалі ступачкі. Перш я падумала: па няведанні. Пасля скеміла: тады не хапала дзіцячага абутку. Лягчэй адмысць ножкі, чым светлыя паўзункі...

Для таго, каб амерыканцы здолелі здзейсніць пастаўкі па ленд-лізу, на Поўначы будавалі спецыяльны аэрадром. Адтуль у яснае надвор'е бачылі Аляску. Бабруйчанін Яўген Квяткоўскі пасля мабілізацыі ўзводзіў абаронныя збудаванні ад японцаў пад Уладзівастокам. Адтуль і трапіў на Чукотку.

Два месяцы плылі два ваенныя караблі, абагнуўшы Сахалін. Адзін вёз вялікую брыгаду, другі — правізію, тэхніку (бульдозеры, трактары) і мноства скрыначак. Што ў іх — ніхто не ведаў. Аказалася — дошчачкі, дарагі паркет! Ім высцілалі ўзлётна-пасадачную паласу.

Пакуль не збудавалі баракі, жылі ў палатках. Прадуктаў хапіла на паўгода. Людзі мерлі ад холаду і голаду, страўнікавых інфекцый, цынгі і сіфілісу (хвароба карэннага этнасу). Ежу здабывалі хто як мог. Беларус адкрыў для сябе вітамінную чарамшу, еў сырую рыбу і птушыныя яйкі. Каго ад такой ежы выварочвала — тыя не мелі шанцаў на жыццё. Трохі палягчэла, як ва ўмовах вечнай мерзлаты паўстала ўзлётная паласа і пачалі завозіць прадукты па дагавору. Да таго ж старшага механіка ўзяў сабе за памочніка камандзір аэрадрома — так што тое-сёе перападала.

Туды ж, у адзіны буйны адміністрацыйны пункт Чукоткі, прыбывалі амерыканскія караблі. Але яны не маглі прышвартавацца — не было прыстані. Грузы з караблёў перавозілі баржамі.

Аднойчы здарылася бяда: баржа збілася з курсу, бо ма-

# Ваенныя ўспаміны палкоўніка Шагуліна

Алег ШАГУЛІН

**Час імкліва адносіць нас ад перажытага ў мінулым стагоддзі. Носьбіты памяці пра рэальныя эпізоды той жудаснай вайны надта хутка сыходзяць. Гэта прымушае нас зрабіць свой унёсак у рэальную карціну мінулага.**

У 1962–1965 гадах я літаральна прымусіў бацьку, палкоўніка Івана Шагуліна, пісаць успаміны пра сваё жыццё. Гэты фрагмент тычыцца таго перыяду вайны, калі Чырвоная Армія, пасля катастрафічнага ўдару Вермахта летам-восенню 1941 года пачала шукаць новыя формы і тактыку кіравання войскамі — ад палка да фронту. Вядома, «школа пошукаў» стваралася «на крыві» — з перамогамі і паразамі. Ішоў 1942 год...

### Мяняю конніцу на танкі

Пасля завяршэння вымушанага 500-кіламетровага рэйду па тылах праціўніка (36 дзён з баямі ад бранскіх лясоў да Тулы), наша 4-я кавалерыйская дывізія, што лічылася ў штабе кавалерыі поўнасцю знішчанай, яшчэ некалькі дзён дапамагала абаронцам Тулы адбівацца ад




танкавай арміі Гудэрыяна. Потым яна была адведзеная на кароткі адпачынак, папаўненне і чакала далейшых, самастойных задач. Маршал Будзённы даклаў Сталіну пра дывізію. Сталін запрасіў ацэнку яе дзейнасці ў камандуючага Заходнім фронтам генерал-лейтэнанта Яроменкі, які на той час знаходзіўся ў шпіталі. За некалькі тыдняў да гэтага ён з часткай свайго штабу выйшаў з акружэння ў расплажэнне нашага палка і быў уражаны яго баяздольнасцю і баямі з праціўнікам. (На жаль, на наступны дзень Яроменка быў цяжка паранены пры бамбёжцы палка і самалётам дастаўлены ў Маскву). І, канешне, ён даў высокую ацэнку баявым справам дывізіі.

Было вырашана даўкамплектаваць дывізію да штату ваеннага часу і прадставіць спісы для ўзнагароджання. Да сакавіка 1942 года дывізія была поўнасцю гатовая, каб зноў выступіць на фронт. Але кіраўніцтва на чале з генералам Жукавым вырашыла папоўніць палкамі нашай дывізіі астатнія дывізіі 9-га кавалерыйскага корпуса. Перадаўшы ўсіх людзей, konскі састаў, узбраенне, маёмасць часткам 9-га корпуса, мы, ужо былое кіраўніцтва і камандзіры дывізіі, на пачатку красавіка 1942 года прыбылі ў Маскву. Я паступіў у распараджэнне Галоўнага палітычнага ўпраўлення РККА, дзе праз некалькі дзён аб'явілі пра маё прызначэнне намеснікам начальніка палітаддзела фармуемай 3-й танкавай арміі. Я павінен быў атрымаць сфармаваны склад палітаддзела, і з імі адправіцца ў раён фармавання 3-й танкавай арміі, якая ў той час знаходзілася непадалёк ад Тулы.

Перад ад'ездам я з вялікай групай франтавікоў быў выкліканы ў Крэмль, дзе мне ўручылі ордэн Баявога Чырвонага Сцяга. Гэтым завяршыўся мой 14-гадовы шлях у кавалерыі.

### Фармуем танкавы кулак

На пачатку траўня 1942 года я з калектывам палітаддзела прыбыў да танкавай арміі. На доўгае прадстаўленне і спакойны ўваход у працу часу не было. Камандарм — генерал-лейтэнант Раманенка — быў маім даўнім знаёмым, таму доўга размаўляць не спатрэбілася: усё было падрадкавана хутчэйшаму фармаванню моцнага «танкавага кулака». Напрыканцы ліпеня 1942 года 3-я танкавая армія была гатова да дзейнасці. І першы свой іспыт на баявую падрыхтоўку яна вытрымала пры правядзенні Казельскай аперацыі.

Але ж і праціўніку ўдалося нанесці нам значныя страты. Баявая школа як для камандавання, так і для экіпажаў была жорсткай. Для кампенсацыі страт армія на пэўны час была дыслакаваная ў лесе бліз Калугі, дзе папаўнялася новымі экіпажамі, танкамі і мотастралковым абсталяваннем. Пасля вымушанага адпачынку ў рэзерве яна была накіраваная на Украіну.

У новы раён канцэнтравання мы рушылі некалькімі эшалонамі. Новы 1943 год сустракалі пад абстрэлам і бамбёжкамі нашага галоўнага эшалона, у якім знаходзіўся штаб арміі і новы камандарм — генерал-лейтэнант Рыбалка. Памятаю, мы з камендантам штаба правяралі ахову — каравулы на адкрытых платформах з танкамі і самаходкамі. І ў гэты час, як назло, фрыцы пачалі старанна «прасаваць» наш эшалон. Мы абодва глянулі на свае гадзіннікі: без

тросы папілі спірту з кампасаў. Баржу панесла цячэннем на скалы. Рабочыя вырашылі скакаць у ваду са снегам у сваіх мехавых камбінезонах. Адзін, на хаду зрываючы адзенне, выскачыў, за ім яшчэ трое… З хваляў пачулі, як застрэліўся старэйшы па ўзросце. Жэня выбраўся на бераг і страціў свядомасць. Яму пашчасціла — яго падабралі і выхадзілі чукчы. Вынікам «няштатнай сітуацыі» сталі толькі абмарожаныя на нагах пальцы…

Небяспека падсцерагала на кожным кроку. Заснуць на варце азначала верную смерць. Часам ратаваў пякучы глыток спірту. Ды здзейснена было галоўнае: прымалі і перапраўлялі на Вялікую Зямлю саюзніцкую дапамогу. Але подзвіг гэтых самаахвярных будаўнікоў застаўся невядомым — ім не далі ніводнага медаліку. Яўген Фларыянавіч усё жыццё крыўдаваў за такую «ўвагу» з боку савецкага камандавання. (З аповедаў Ядвісі Квяткоўскай).

Не ўяўляецца, як Чырвоная Армія магла перамагчы нацыстаў без славутых «Студэбекараў». Карыстацца імі карысталіся, але за пахвалу на адрас амерыканскай тэхнікі можна было трапіць туды, куды Макар цяля не ганяў.

«У нашу вайсковую частку (у той час я служыў у Расіі) пасля вайны прыгналі грузавыя аўтамабілі амерыканскай вытворчасці, называлі іх «Студэбекеры». Стаяць армейцы ля замежных аўтамабіляў, аглядаюць. Далучыўся капітан, пагладзіў радыятар, падышоў да кузава і захоплена пляснуў па ім далонню: «Вось гэта тэхніка!» Той жа ноччу яго і схапілі. Галоўнакамандуючы Савецкай арміі, генералісімус, бацька ўсіх плямён і народаў, вялікі таварыш Сталін узяў яго пад сваю апеку ажно на пятнаццаць гадоў», — распавёў адзін адстаўнік на рыбалцы. (Паводле Рычарда Жураўскага).

Тое-сёе перападала не толькі фронту, але і партызанам. ***«Перад “Карпатским рейдом” из Москвы доставили очень добротные комбинезоны зеленого цвета, говорили, что они “американские”. Те, кто прибыл в отряд из “московских” десантных групп, ходили в кожаных куртках»,*** — піша Барыс Цырлін на сайце «Я помню».

Моладзь можа не ведаць гэтага слова — ленд-ліз. Адкрываю інтэрнэт і знаходжу там поўныя жоўці выпады сучасных расійскіх імперцаў супраць «дзядзькі Сэма», які хацеў нажыцца на чужой бядзе. Падумаць толькі: калі вайна скончылася, яны запатрабавалі назад свае «Вілісы» — з поўным камплектам і ключамі, а пасля пусцілі ўсё гэта на пераплаўку.

Мне стала цікава. Адкрываю тэкст за тэкстам, знаёмлюся. Віды паставак, шляхі паставак, небяспека самага кароткага Паўночнага шляху — марскога… Ага, і па сушы, праз Іран адпраўлялі — вось адкуль «Іранскі дзённік» Пімена Панчанкі…

Лічбы ваенна-прамысловай дапамогі знаходзяцца ў вольным доступе. Савецкія ўзброеныя сілы да мая 1945-га атрымалі 450 тысяч грузавых машын і 21 тысячу баявых самалётаў, 1900 лакаматываў з вагонамі і рэйкамі, тысячы ваенных караблёў і кацераў. ЗША і Злучанае Каралеўства паставілі Савецкаму Саюзу звыш 45 тысяч радыёстанцый, 2 тысячы радыёлакатараў, 8,5 тысяч зенітных гармат. На амерыканскай цязе дзейнічала ўся артылерыя. З Вялікабрытаніі, Канады і ЗША было атрымана звыш аднаго мільёна тон авіябензіну, які з мэтай эканоміі змешвалі з менш якасным савецкім палівам. Ад саюзнікаў атрымлівалі стралковую зброю, танкі, бронетранспарцёры, алюміній, медзь і сталь, порах і снарады. Да таго ж прадукты: зерне, мясныя кансервы, тлушч, масла, цукар. У адным з заказаў 1946 года Савецкі Саюз папрасіў у амерыканцаў найноўшы бамбардзіроўшчык, якому не было аналагаў у свеце. Самалёта, зразумела, не далі. Тады выдатныя савецкія авіяканструктары разабралі і скапіравалі борт, што быў разбіты на Далёкім Усходзе.

### Ленд-ліз для СССР

**Агульны аб'ём дапамогі СССР**

11 300 000 долараў (у цэнах 1941–1945 гг.)
140 мільярдаў долараў (у цэнах 2008 года)

Пастаўкі ў СССР да 30 верасня 1945 года

**Тэхніка, транспарт і зброя, штукі**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Грузавыя машыны | 375883 | Танкі | 12700 |
| Аўтаматычная зброя | 131633 | Вінтоўкі | 8218 |
| Матацыклы | 35170 | Радыёлакатары | 445 |
| Лятальныя апараты | 22150 | Супрацьлодачныя караблі | 105 |
| Пісталеты | 12997 | Тарпеды | 197 |

**Выбухоўка, тоны**

| | |
|---|---|
| Выбуховыя рэчывы | 345735 |
| Порах | 12700 |
| ТрацІл | 123150 |
| Дынаміт | 31933 |

**Харчаванне, тоны**

| | |
|---|---|
| Харчовыя запасы | 447800 |

**Абутак, пары**

| | |
|---|---|
| Армейскі абутак | 15417000 |

Згодна ленд-лізу, усё, што знішчана, страчана і выкарыстана падчас вайны, не падлягала аплаце. Што не разбурана і захавана — належала вярнуць або кампенсаваць кошт. Гэта, лічу, справядліва. Даўгі «дзядзьку Сэму» вярталіся са скрыпам. (А колькі марыянетачных урадаў кармілі, каму толькі ні пастаўлялі зброю!)

У 1972 годзе выплаты ЗША былі зусім перапыненыя, а пасля распаду СССР аформленыя на правапераемніцу — Расію. У Расійскай Федэрацыі з-за падзей ва Украіне і Сірыі «фінансы заспявалі рамансы», так што капіталісты могуць не дачакацца «выгады» ад сваіх даўніх паставак.

У юбілейных прамовах не любяць згадваць ні пра саюзнікаў, ні пра дапамогу. У савецкіх фільмах усе «Кацюшы» ўстаноўленыя на айчынных «ЗІСах», што не адпавядае сапраўднасці. Маленькая магнітная міна, падкладзеная пад ложак Кубэ, была англійскай вытворчасці — зручная тым, што не цікала.

Можа, і не варта перабольшваць унёсак саюзнікаў у перамогу, але навошта яго замоўчваць, а тым болей — зводзіць на нішто? А былі ж яшчэ і людскія страты. Можа, і несувымерныя са стратамі краіны-пераможцы, але адчувальныя для кожнага народа.

---

некалькіх хвілін 24 гадзіны — Новы Год! Я і камендант штаба з яшчэ адным афіцэрам пaслалі падалей бамбёжку, вайну, прыстасаваліся ля танка і па чарзе выпілі з баклажкі за Новы год і нашу перамогу. Трохі паўтарылі — за нашы сем'і і дзяцей.

### Баі ва Украіне

Праз некалькі сутак наш эшалон прыбыў на станцыю выгрузкі «Талая». Праціўнік бамбіў без перапынку. Выгружаліся спешна, каб паспець змяніць 3-ю агульнавайсковую армію. На наступны пасля нашага прыбыцця дзень сувязісты перахапілі нямецкую радыёграму, дзе нямецкае камандаванне адкрытым тэкстам папярэджвала сваіх: «Спадары генералы і афіцэры, прыбыла 3-я танкавая армія рускіх. Не блытайце яе з 3-й агульнавайсковай арміяй. Загадваю: неадкладна перайсці да жорсткай абароны». Нядрэнную атэстацыю зрабіў праціўнік нашай арміі сваёй радыёграмай, якую мы неадкладна давялі да байцоў і камандзіраў.

Баявыя дзеянні для нас пачаліся з вызвалення буйнога чыгуначнага вузла «Валуйкі», на якім былі дзясяткі эшалонаў з нарабаваным дабром (у асноўным, з мукой), падрыхтаваных для адпраўкі ў Германію. Валуйкі былі ўзятыя літаральна «з ходу», з малымі стратамі. Дарэчы, адбыўся сапраўдны кавалерыйскі цуд маланкавага захопу вакзала. У яго памяшканні і наўкола заселі немцы. Выпадкова бліз будынку апынулася конная група на чале з палкоўнікам. Пачуўшы, што вакзал яшчэ не вызвалены, палкоўнік дай каманду: «Шашкі да бою» — і конная група рынулася на вакзал.

З ваенна-тэарэтычнага пункту гледжання гэта мяжуе з вар'яцтвам. Але ж вынікі апынуліся звышэфектныя — абаронцы вакзала былі цалкам знішчаны сабельна-псіхічным ударам смельчакоў-коннікаў.

Армія з вялікім поспехам пераадольвала моцны супраціў аб'яднаных сіл праціўніка — немцаў, румынаў, мадзьяраў і італьянцаў. Разам з кавалерыйскімі карпусамі, паспяхова расчышчаючы дарогу на Харкаў, вызваліла Росаш, Чугуеў, Марэфу (прыгарад Харкава). Такі нечаканы прарыў дэмаралізаваў немцаў, яны страцілі каардынацыю і кіраванне войскамі. Тут дарэчы прывесці два трагікамічныя паказальныя эпізоды.

Штаб арміі ўжо некалькі дзён знаходзіўся ў Росашы. Ясны марозны дзень. Старэнькая жанчына вырашыла пайсці з санкамі ў лес назбіраць хворасту. Не паспела яна ўвайсці ў лес, як яе акружылі… немцы, і вельмі далікатна папрасілі адвесці іх да нашага камандавання. «Только не да партызан!» — прасілі яны. І мы ў штабе арміі назіралі дзіўную карціну: наперадзе важна выступала жанчына, за ёю — два немцы цягнулі з верхам нагружаныя саначкі, а далей — вялікая калона абмерзлых, галодных ворагаў.

На наступны дзень у штаб арміі праводзілі групу генералаў і афіцэраў для «добраахвотнай» здачы ў палон. Прымаў іх сам камандарм Рыбалка. Перад ім стаялі генералы без войскаў, якія мелі жалю варты выгляд, галодныя, няголеныя. І, нягледзячы на сваё становішча, старэйшы з генералаў, італьянец гадоў шасцідзесяці, меў нахабства заявіць, што яны, не жадаючы непатрэбнага праліцця крыві, вырашылі здацца са сваімі войскамі «на міласць пераможцы». Тады Рыбалка іранічна спытаў генерала, ці не можа ён указаць дыслакацыю сваіх войскаў, што «здаюцца» (да таго часу часткова палонных, часткова знішчаных). Генерал змоўк… Палонныя былі дапытаныя, накормленыя і адпраўленыя ў штаб фронту…

### Людвік Свобада і яго батальён

У лютым 1943 года ў склад Варонежскага фронту прыбыў з горада Бузулук сфармаваны з чэхаў і славакаў 1-ы чэхаславацкі асобны батальён пад камандаваннем палкоўніка Людвіга Свободы. Батальён быў уключаны ў склад 3-й танкавай арміі (і невыпадкова). Ваенны савет даручыў мне курыраваць адносіны арміі з батальёнам Свободы.

Гэта адбылося ў Міргарадзе падчас нашых жорсткіх наступальных баёў за Харкаў у сакавіку 1943 года. Мы з начштаба артылерыі арміі палкоўнікам Навіцкім былі сардэчна, па-братэрску прынятыя Свободай. Абмеркаваўшы ваенна-арганізацыйныя дэталі нашага супрацоўніцтва, мы, «пад кубачак гарбаты», даведаліся ад Свободы пра яго шлях ад акупаванай немцамі Прагі да менавіта нашай танкавай арміі.

Пасля Мюнхенскай здачы Гітлеру Чэхаславакіі Свобада з групай патрыётаў — былых вайскоўцаў Чэхаславацкай арміі — збег у Польшчу, дзе Свобада звярнуўся ў савецкае пасольства з просьбай падрыхтаваць пераход групы ў СССР. Просьба Свободы была задаволеная, а арганізацыя пераходу была даручаная ваеннаму аташэ СССР у Польшчы палкоўніку… Рыбалку! Так лёс звязаў двух выдатных ваяроў — палкоўніка Свободу (будучага генерала арміі і кіраўніка Чэхаславакіі) і камандарма 3-й танкавай арміі (будучага маршала бранятанкавых войск СССР). Іх баявое сяброўства было замацавана крывёю, пралітай іх салдатамі ў сумесных баях з фашыстамі. Баявое хрышчэнне батальёна Свободы адбылося ў гераічнай абароне сяла Сакалова бліз Харкава. 14 дзён батальён разам з воінамі нашых 25-й і 62-й гвардзейскіх дывізій утрымліваў свой участак абароны, не прапусціўшы да Харкава ніводнага фашысцкага танка.

Вяршыняй гераізму стаў подзвіг падпаручніка камандзіра роты Атакара Яраша. Гэта адбылося на вачах майго бацькі: не раз паранены Яраш, жадаючы любой цаной спыніць фашысцкі танк, які ўжо амаль прарваўся да штаба, са звязкай гранат кінуўся да яго гусеніц. Атакар Яраш стаў першым замежным афіцэрам, якому было нададзена званне Героя Савецкага Саюза.

Папоўнены за кошт чэхаў і славакаў батальён разгарнуўся спачатку ў брыгаду, а ў красавіку 1944 года — у першы Чэхаславацкі корпус, які ў кастрычніку 1944 года з баямі перайшоў мяжу Чэхаславакіі і ступіў на родную зямлю.

### Апошняя стратэгічная памылка: непадмацаваныя надзеі

Першы перыяд наступлення нашай танкавай арміі прынёс уражлівы поспех у вызваленні нашай тэрыторыі аж да Палтавы. Але ж якой цаной? На працягу перыяду паспяховага наступлення ані Варонежскі фронт, ані 3-я танкавая армія не атрымлівалі папаўнення ні людзьмі, ні тэхнікай. Далей наступаць не было чым і не было каму. Камандарм Рыбалка не раз дакладаў аб небяспечнай сітуацыі камандуючаму фронтам Голікаву, але Цэнтр, магчыма, зачараваны поспехамі, патрабаваў працягваць наступленне. Адбылося тое, што і павінна было адбыцца — у выніку моцнага нямецкага контрудару нам давялося з найцяжэйшымі баямі і стратамі спешна адыходзіць (а часам літаральна і бегчы) аж да Паўночнага Данца, дзе толькі і можна было перайсці да абароны.

Каб адыход не пераўтварыўся ў бездапаможнае збіццё, Рыбалка загадаў мне і палкоўніку Навіцкаму застацца ў Марэфе і арганізаваць як мага больш доўгую яго абарону. Застаўшыся ў Марэфе без артылерыйскай падтрымкі, з нязначнымі вайсковымі рэшткамі адыходзячых частак, без харчоў, мы вялі бясконцыя баі пры поўным валадарстве праціўніка ў небе. Гэта была сапраўды гераічная і цяжэйшая бітва за Марэфу, якая стала шчытом для адступаючай 3-й арміі. Мы пакінулі Марэфу, толькі калі атрымалі інфармацыю пра вырашэнне абарончай сітуацыі на Паўночным Данцы. Наша з Навіцкім місія і місія гераічных абаронцаў Марэфы была выкананая.

### Вечная ім памяць і вечная ім наша любоў!

Далей месца ўжо іншым успамінам: абарона на Паўночным Данцы, пераход танкавай арміі з часцямі Свободы на Кіеўскі напрамак, узмацненне новай, 57-й агульнавайсковай арміі, у складзе якой мой бацька — Іван Іванавіч Шагулін — яшчэ пройдзе цяжкі шлях абаронцы Радзімы. Потым будуць Румынія, Балгарыя, Югаславія і Венгрыя. І ўсё перажытае палкоўнік Шагулін узгадае на прыступках Рэйхстага…

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТАДЖЫКІСТАН. Рахмон роўны Ісусу

Таджыкскі паэт, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Таджыкістана Ато Мірходжа апублікаваў паэму, у якой параўнаў Эмамалі Рахмона з Ісусам Хрыстом. Паэма называецца «Гісторыя Нурыстана» («Гісторыя краіны святла»), у якой апісваецца, як сваім прыходам да ўлады Рахмон асвяціў Таджыкістан, які знаходзіўся ў цемры. У раздзеле пад характэрнай назвай «Ззянне нараджэння Эмамалі Рахмона» паэт называе яго «новы Іса» (у ісламскай традыцыі Ісус Хрыстос — прарок Іса) і спасылаецца на тое, што маці Рахмона, як і маці Ісуса, звалі Мар'ям (Марыя). На гэтым паралелі не скончыліся. У сваім творы аўтар параўноўвае Рахмона з Алі, стрыечным братам і бліжэйшым паплечнікам прарока Мухамеда, ды называе яго «Алі свяшчэннага свету». А калі паэт апісвае абранне Рахмонам на пасаду кіраўніка краіны ў 1992 годзе, паведамляе, што ў гэты момант «ззянне імама Алі» асвяціла святлом усё навокал. Застаецца дадаць, што гэта не першы твор пісьменніка, у якім ён ўсхваляе кіраўніка. У студзені была апублікаваная паэма «Гаворка лідара — лёс нацыі», дзе Мірходжа напісаў, што падчас прамовы Рахмона сонца і месяц спыніліся, каб прыслухацца да яго слоў, а Трамп, Пуцін і Сі Цзіньпін старанна аналізавалі выказванні правадыра таджыкаў у пошуках новых адкрыццяў.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### СВАЗІЛЕНД. Кароль хіпстэраў

Мсваці III, кароль Свазіленду — невялікай афрыканскай дзяржавы, якая знаходзіцца паміж Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікай і Мазамбікам і мае рэпутацыю адной з самых абсалютных манархій у свеце, — знайшоў рэцэпт, як палепшыць свой імідж у свеце, а таксама адначасова зарабіць грошай. Формула вельмі простая — стаць сваім у вачах хіпстэраў. Для гэтага ў краіне быў арганізаваны адзін з найбольш буйных рок-фестываляў пад назвай «Bushfire», які выклікаў вялікі фурор сярод тусоўшчыкаў. Прычына не толькі ў добрай праграме (на фэст прыехала шмат вядомых афрыканскіх музыкаў). У Свазілендзе ледзь не самая танная марыхуана ў свеце, на спажыванне якой паліцыя (па загадзе караля) падчас фестывалю заплюшчвала вочы. На гэтым фоне мала хто згадаў пра тое, што 63 працэнты насельніцтва Свазіленду жыве за мяжой беднасці. Не кажучы пра тое, што 27 працэнтаў свазілендцаў хварэе на СНІД. Аднак, напэўна, «Bushfire», — яшчэ не фінал. У прэсе пішуць, што цяпер у Свазілендзе трэба чакаць найбольшага ў Афрыцы гей-прайду.

**Паводле французскай прэсы**

### АРМЕНІЯ. Жабаў можна, малпаў — не

Сумнавядомы Рассельгаснагляд зноў прымусіў задумацца наконт логікі сваіх учынкаў. Пачалося ўсё 15 чэрвеня, калі ведамства прыняло цікавае рашэнне адносна Арменіі і забараніла ўвоз адтуль усіх відаў жывёл, птушак, рэптылій, амфібій, марскіх і прэснаводных арганізмаў, у тым ліку рыбы, ікры, ракаў, жабаў і малюскаў. Затым Рассельгаснагляд адрэдагаваў апублікаваную раней заяву. Цяпер у ведамстве заявілі, што першы варыянт заявы страціў сілу, і што забарона на ўвоз уводзіцца толькі ў дачыненні да прыматаў. Заява расійскага дзяржаўнага органа ніяк не ўкладаецца ў галаве, бо ў Арменіі няма малпаў. А таму незразумела, чаму Рассельгаснагляд раптам згадаў пра неадназовыя парушэнні пры ўвозе малпаў з Арменіі і ўвёў забарону на такі імпарт. Наколькі быў інтэнсіўны ўвоз малпаў з Арменіі ў Расію, што ведамства перайшло да актыўных дзеянняў? Пакуль адзіны больш-менш лагічны адказ звязваюць з адначасовым візітам у Маскву армянскага прэм'ера Ніколы Пашыняна, які, магчыма, не змог дамовіцца з Пуціным. У адказ расійскі кіраўнік выкарыстаў Рассельгаснагляд ў якасці інструмента для палітычнага ціску. Аднак пытанне пры чым тут малпы, усё роўна застаецца без адказу.

**Паводле армянскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Ці трэба немцам спяваць гімн?

Нямецкая каляфутбольная грамадскасць нават падчас чэмпіянату свету працягвае абмяркоўваць нядаўні скандальны ўчынак футбалістаў зборнай ФРГ і нямецкіх грамадзян Ілкая Гюндагана і Месута Озіла. Нагадаем, што яны падаравалі турэцкаму кіраўніку Эрдагану футболкі ды назвалі палітыка «мой прэзідэнт». Падарунак шакаваў немцаў, асабліва тых, хто верыў, што мігрантаў можна інтэграваць у нямецкую супольнасць. Прыкладна палова немцаў, паводле апытанняў, выступае сёння за тое, каб выключыць згаданых футбалістаў з каманды. Між тым, узнікла думка, што іншыя гульцы таксама далёка не патрыёты. Прынамсі, шмат хто з іх не спявае гімн Германіі перад пачаткам сустрэчаў. Заклік спяваць гімн напалохаў левых і лібералаў, якія бачаць тут нават адзнакі адраджэння нацызму. Яны лічаць, што выкананне гімна характэрна для цяжкіх часоў, калі краіна змагаецца або знаходзіцца ў крызісным стане. Тады гімн дапамагае, належыць адыгрывае мабілізацыйную ролю. А пакуль у Германіі больш-менш усё нармальна, выкананне гімну спартоўцы, маўляў, могуць ігнараваць.

**Паводле нямецкай прэсы**




Фота www.svaboda.org

# Моўны бунт

Алег НОВІКАЎ

**У Расіі ідзе, магчыма, вырашальны раўнд барацьбы малых народаў за захаванне сваіх моваў.**

Чамусьці лічыцца, што ў топе нелаяльнасці расійскіх рэгіёнаў вядучыя пазіцыі займаюць каўказскія рэспублікі. Між тым, эпіцэнтр фронды супраць метраполіі трэба шукаць у тундры або сібірскай тайзе. Прынамсі ніводная каўказская рэспубліка не дазволіла сабе таго, на што адважылася днямі якуцкае кіраўніцтва.

Іл Тумэн — так называецца парламент Рэспублікі Саха (Якуція) — 13 чэрвеня на пленарным пасяджэнні разгледзеў федэральны законапраект пра добраахвотнае вывучэнне родных моў. Нагадаем, што той законапраект з'явіўся па выніках канфлікту ў Татарстане, дзе ў мінулым годзе бацькі рускамоўных вучняў выказалі пратэст супраць прынцыпу абавязковага вывучэння татарскай мовы. Ім супрацьстаяла татарская грамадскасць, якой сімпатызавала фракцыя мясцовай наменклатуры.

Кропку ў спрэчцы паставіў асабіста Уладзімір Пуцін. Летам 2017 года ён катэгарычна заявіў пра недапушчальнасць прымусу ў вывучэнні народных моў. Пасля гэтага ўрокі татарскай мовы ў Татарстане і башкірскай мовы ў Башкартастане перасталі быць абавязковымі. Аднак частцы расійскага палітыкуму таго было замала. У красавіку гэтага года некалькі дэпутатаў Дзярждумы ўнеслі законапраект пра добраахвотнае вывучэнне родных моў ва ўсіх аўтаноміях. Цяпер дакумент разглядаецца ў рэгіянальных парламентах. І, як высвятляецца, ухваленне дакладна не будзе.

У прыватнасці, дэпутаты Дзяржсавета Татарстана выступілі супраць прапанаваных паправак. Сусветны Курултай башкір накіраваў спікеру Дзярждумы зварот з заклікам не разглядаць змены да закона «Аб адукацыі». Каардынацыйны савет адыгейскіх грамадскіх аб'яднанняў выказаў думку, што родныя мовы тытульных народаў — суб'ектаў РФ павінны заставацца дзяржаўнымі і вывучацца ў школах у поўным аб'ёме. Кіраўнік Інгушэціі запэўніў, што ўсе інгушскія вучні ў абавязковым парадку будуць вывучаць родную мову ў рэспубліцы. Дэпутат ад Чачні адклікаў сваё прозвішча са спісу ініцыятараў законапраекта. У інтэрнэце ідзе збор подпісаў пад патрабаваннем да дэпутатаў Дзярждумы ад Чувашыі скласці свае мандаты праз абыякавае стаўленне да моўнага закона.

Усе аматары родных моў — ці то Каўказ, ці то Паволжа — згодныя: вывучэнне роднай мовы ў неабавязковым парадку прыводзіць да масавых адмоў ад яе вывучэння. Пасля будзе запушчаны наступны алгарытм: мова застанецца выключна ў побытавай сферы, што прывядзе да збяднення слоўнікавага запасу і да яе выцяснення з дзяржустаноў і публіцыстыкі. У канчатковым выніку такі трэнд закладзе маршрут да асіміляцыі цэлых народаў.

**Стыхійна арганізаваны шквал рэзалюцый і пратэстаў з месцаў прымусіў Крэмль занервавацца. У прэсе ўсё больш публікацый, аўтары якіх заклікаюць адправіць законапраект на дапрацоўку**

Аднак далей за ўсіх у крытыцы праекту пайшлі якуты. Па выніках згаданага вышэй абмеркавання большасцю галасоў дэпутаты якуцкага Іл Тумэна не пагадзіліся з асноўнымі палажэннямі праекта федэральнага закона. У заяве адзначаецца, што, згодна з артыкулам 26 Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі, яе грамадзянам гарантуецца права на карыстанне роднай мовай, на свабодны выбар мовы зносін, выхавання, навучання і творчасці.

Ці здолее Масква, а дакладней, ініцыятары законапраекту, працiснуць задуманы план? З улікам таго, што ў першым чытанні Дума ўжо прынцыпова падтрымала законапраект, падаецца, атрымаць фінальную большасць галасоў не складзе цяжкасці. Акрамя таго, не выключаю, што за гучнай патрыятычнай патэтыкай мясцовых кіраўнікоў хаваецца асабісты інтарэс. На такой балючай для Крамля тэме, як міжнацыянальныя адносіны, можна заўжды выгандлеваць новыя субсідыі.

Да канца гатовая ісці выключна мясцовая грамадскасць. Але цяжка ўявіць, як яна практычна зможа байкатаваць рэалізацыю цыркуляраў Мінадукацыі. Настаўнікі, якія належаць да катэгорыі бюджэтнікаў, як правіла, намагаюцца трымацца падалей ад палітыкі.

Тым не менш, стыхійна арганізаваны шквал рэзалюцый і пратэстаў з месцаў прымусіў Крэмль занервавацца. У расійскай цэнтральнай прэсе ўсё больш публікацый, аўтары якіх заклікаюць адправіць законапраект на дапрацоўку. Ужо ёсць і фармальная падстава для такога рашэння — пастанова Грамадскай палаты Расіі. Там лічаць, што законапраект пра вывучэнне нацыянальных моў ставарае высокую рызыку будучых канфліктаў, і прапануюць уладам заняцца карэкціроўкай дакумента. Напрыклад, мяркуецца, што рэспублікі змогуць пакінуць нацыянальныя мовы ў абавязковай частцы школьнай праграмы, але пры гэтым і рускай мове таксама будзе нададзены статус «роднай».

Відавочна, што такая юрыдычная фармулёўка можа мець самыя арыгінальныя палітычныя інтэрпрэтацыі. Асабліва ў кантэксце таго, што мовы паміраюць праз адсутнасць належнай падрыхтоўкі выкладання. У Расіі існуе 227 моў, падручнікі ёсць толькі для пяці, прыкладныя асноўныя адукацыйныя праграмы — для 13, адзначае «Независимая газета».

У любым выпадку, першую атаку на свае мовы малыя народы Расіі, падаецца, збольшага адбілі. Барацьба працягваецца.

# Ці адбудзецца вынас цела?

Алег НОВІКАЎ

**Іспанскія сацыялісты атрымалі ўладу — і адразу ўзяліся за старое: яны каторы ўжо раз абяцаюць перапахаваць парэшткі дыктатара Францыска Франка.**


Фота www.russianspain.com

«Іспанцы, Франка памёр», — вось так, адным сказам, лаканічна і даступна 20 лістапада 1975 года дыктар радыё паведаміў пра сыход кіраўніка дзяржавы. З улікам таго, што El Caudillo (мянушка Франка) кіраваў краінай аж 36 гадоў, натуральна, шматлікіх іспанцаў ахапіла паніка. Развітацца з нябожчыкам прыйшлі каля паўмільёна чалавек.

Пасля цырымоніі развітання парэшткі Франка ўрачыста пахавалі ў так званай «Магіле паўшых» — мемарыяле пад Мадрыдам у гонар ахвяраў грамадзянскай вайны. Там Франка спакойна спачываў, але па меры замацавання ў Іспаніі дэмакратычнага ладу пачалі гучаць заклікі — перапахаваць дыктатара.

Аргументацыя прыхільнікаў перапахавання Франка чымсьці падобная на тую, што прыводзяць расійскія лібералы, якія мараць вынесці з маўзалея Леніна: не пахаваўшы дыктатара, немагчыма ўсталяваць мір у грамадстве, скончыць з апалогіяй палітычнага гвалту, і, нарэшце, канчаткова перагарнуць старонку гісторыі, каб глядзець у будучыню.

Аднак у гэтай аргументацыі ёсць іспанская спецыфіка. Па-першае, «Магіла паўшых» — вельмі прыкметнае месца. Яе будаўніцтва можна назваць іспанскім аналагам ГУЛАГу, паколькі тут працавалі вязні-рэспубліканцы. Шмат хто з іх і знайшоў там апошні прытулак. Нездарма розныя левыя палітычныя партыі прапанавалі змяніць канцэпцыю помніка. «Магіла паўшых», на іх думку, павінна была служыць напамінам пра злачынствы Франка падчас грамадзянскай вайны і дыктатуры.

Акрамя таго, месца, дзе ляжыць Франка, доўгі час было своеасаблівай Мекай для неафашыстаў. Каля магілы дыктатара адбываліся розныя акцыі і флэшмобы. Усё гэта скончылася ў 2007 годзе, калі ўрадам Іспанскай рабочай сацыялістычнай партыі (PSOE) быў прыняты закон «Аб гістарычнай памяці». Палітычныя выхадкі ля магілы Франка цяпер забароненыя.

Магчыма, у 2007 годзе справа дайшла б і да перапахавання Франка. Прынамсі, пра гэта ў той час казалі шмат. Аднак рэалізацыя плану застапарылася пасля страты сацыялістамі парламенцкай большасці. А хутка сацыялісты ўвогуле прайгралі выбары і надоўга сышлі ў апазіцыю.

І вось у доўгай гісторыі з вынасам цела Франка — новы сезон, пралогам да якога аказаўся буйны карупцыйны скандал з удзелам функцыянераў урадавай кансерватыўнай Народнай партыі. У выніку дэпутаты прагаласавалі за кабінет PSOE. Яго старшыня Педра Санчэс хутка згадаў пра старое абяцанне сацыялістаў — перапахаваць Франка.

Прычым, перапахаванне — гэта толькі частка новага маштабнага плана. Прапануецца аднячасова стварыць Камітэт праўды, які высвеціць лёс кожнага іспанца, які знік у часы Грамадзянскай вайны. На пошукі

**«Франкісцкая традыцыя дасюль уплывае на светапогляд палітыкаў. Перанос цела дыктатара можа стаць пачаткам мадэрнізацыі краіны»**

кожнага зніклага іспанца нават выдаткуюць канкрэтную суму.

Для гэтага ў Закон аб гістарычнай памяці патрэбна ўнесці адпаведныя змены. І віцэ-прэм'ер Кармэн Кальва кажа, што за рэформу ўжо гатовыя галасаваць дэпутаты. Акрамя фракцыі PSOE, ідэю, натуральна, віталі радыкальныя левыя з руху Podemos. Будуць схільныя націснуць кнопку «так» баскскія і каталонскія нацыяналісты, папярэднікаў якіх у часы Франка бязлітасна рэпрэсавалі. Пакуль не супраць аддаць галасы за папраўкі лібералы з партыі Ciudadanos, хаця яны фліртуюць з правым электаратам і патэнцыйна здольныя на любы кульбіт.

Супраць дакладна будуць кансерватары, якія ўжо абвінавацілі Санчэса ў вяртанні да тактыкі «культурных войнаў», калі, маўляў, вырашэнне актуальных праблем урад намагаецца замяніць дэбатамі пра стаўленне да розных эпізодаў гісторыі. А вось калумністы правых СМІ, якім не трэба быць паліткарэктнымі, адкрытым тэкстам пішуць пра рэваншызм унукаў тых, хто прайграў Грамадзянскую вайну, і вырашыў сёння, за кошт перапахавання Франка, адпомсціць за продкаў.

Ці будуць рэалізаваныя планы сацыялістаў гэтым разам, і якія могуць быць наступствы перапахавання?

Сітуацыю «Новаму Часу» каментуе каталонскі журналіст **Рыкарда Джардана**.

— Калі Франка і перапахаваюць, гэта адбудзецца на працягу бліжэйшага часу. Зараз ад сацыялістычнага кабінета чакаюць рэформаў і зменаў. І перанос цела Франка так ці інакш будзе пасаваць гэтым настроям. Кансерватыўная апазіцыя знаходзіцца ў крызісе, дасюль не мае новага лідара, і пакуль не ў стане затармазіць праекты Санчэса.

Калі час будзе згублены, дык паступова ўрад сацыялістаў народу надакучыць і, адпаведна, да іх ініцыятываў пачнуць ставіцца больш крытычна і асцярожна. Тады не будзе на двары і Чэмпіянату свету па футболе, калі публіка менш цікавіцца палітыкай.

Увогуле, перапахаванне можа быць вельмі знакавай і сімвалічнай падзеяй. Франкісцкая традыцыя дасюль уплывае на светапогляд іспанскіх палітыкаў і чыноўнікаў. Перанос цела дыктатара можа стаць маркерам пачатку мадэрнізацыі краіны. Нездарма каталонскі нацыяналіст Карлес Пучдэман называў папярэдні ўрад «ахоўнікі магілы Франка».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Мікіта Джыгурда

Скандальны расійскі артыст Мікіта Джыгурда зрабіў незвычайную заяву. Ён абвясціў, што верне Маскве секс пасля таго, як стане мэрам сталіцы на выбарах у верасні.

«Збіраю подпісы для вылучэння ў мэры Масквы. Сёння сустрэўся з выбаршчыкамі! Я вярну Маскве секс, драйв і рок-н-рол!!!» — заявіў спявак у сваім допісе. Пры ўсёй камічнасці заявы, сітуацыя досыць неардынарная. Справа ў тым, што ў маскоўскім апазіцыйным лагеры пануе поўны хаос. Дэмакраты так і не змаглі вылучыць адзінага кандыдата. Больш за тое, ад найстарэйшай дэмакратычнай структуры — партыі «Яблоко», ідуць аж два чалавекі. У такой сітуацыі масквічы, незадаволеныя мэрам Сабяніным, могуць прагаласаваць за нейкую эпатажную асобу, якая не звязана з кулуарнымі асабістымі разборкамі.

Балаціроўка Джыгурды выклікала хайп у сецiве. «Дзе падпісаць трэба?», «Хай усё задуманае вамі збудзецца!!! Люблю Вас, Мікіта!» — такія каментары пакінулі карыстальнікі пад допісам.

Праўда, у Джыгурды ёсць адна праблема — наяўнасць украінскага пашпарту (ён нават абяцаў у свой час стаць украінскім прэзідэнтам). Паводле законаў РФ, іншаземцам забаронена быць кіраўнікамі расійскіх гарадоў.

У любым выпадку, як пішуць каментатары, Джыгурда можа даць штуршок іншым прадстаўнікам шоў-бізнесу, якія таксама здольныя абвясціць пра амбіцыі заняць крэсла мэра. Парадаксальна, аднак такі сцэнар можа быць кашмарам для Крамля, паколькі наглядна прадэманструе фарсавы характар расійскіх выбараў.

### Іван Дуке



За Дуке ў якасці новага прэзідэнта Калумбіі ад партыі Дэмакратычны цэнтр у другім туры прагаласавалі 53,97% выбаршчыкаў, за яго канкурэнта, экс-мэра Багаты Густава Пятро, які вылучаўся ад левай кааліцыі, — 41,81%.

Галасаванне за Дуке выглядае трошкі дзіўна, паколькі ён быў відавочным кандыдатам вайны. Падчас кампаніі Дуке неаднаразова заяўляў пра неабходнасць унясення паправак у пагадненне аб міры з лявацкай паўстанцкай арганізацыяй «Рэвалюцыйныя ўзброеныя сілы Калумбіі» (FARC). Адпаведную заяву ён зрабіў і адразу пасля абвяшчэння вынікаў выбараў. Наўрад ці FARC пагодзіцца пайсці на аднабаковыя саступкі, што пагражае аднаўленнем старога канфлікту.

Вельмі агрэсіўныя пасажы рабіў Дуке на адрас суседняй Венесуэлы, дзе чавісты, якія знаходзяцца ва ўладзе, таксама ўвесь час кажуць пра калумбійскую ваенную пагрозу. Яшчэ аналітыкаў бянтэжыць папулісцкі профіль Дуке, якога год таму амаль ніхто не ведаў. Дамінуе думка, што за Дуке галасавалі праз тое, што ён быў аватарам экс-прэзідэнта Альвара Урыбе, які быў сябрам выбарчага штабу новага прэзідэнта. Застаецца пачакаць, каб даведацца, ці сапраўды Дуке гатовы застаЎацца марыянеткай Урыбе або паспрабуе праводзіць сваю палітычную лінію.

### Алег Барна



Дэпутат Вярхоўнай рады Украіны ад «Блока Пятра Парашэнкі» зарэгістраваў у парламенце законапраект, у якім прапанаваў увесці штрафы за «публічную праяву сексуальнай арыентацыі».

Паводле задумы аўтара ініцыятывы, «выраб і распаўсюджванне прадукцыі, якая змяшчае інфармацыю аб сексуальнай арыентацыі чалавека, і публічныя дзеянні, накіраваныя на прапаганду любых відаў сексуальнай арыентацыі», павінны карацца штрафам у памеры ад $194 да $1,9 тысячы. Тыя ж дзеянні, учыненыя паўторна, Барна прапануе караць штрафам удвая большым і грамадскімі работамі тэрмінам ад 40 да 60 гадзін.

Забарона на «прапаганду сексуальнай арыентацыі» павінна, на думку дэпутата «павысіць маральнасць украінскага грамадства». Законапраект, безумоўна, скандальны, паколькі напярэдадні ў Кіеве прайшоў гей-прайд, які адміністрацыя Парашэнкі паднесла як сведчанне імклівай вестэрнізацыі Украіны.

Але тое, што робяць прадстаўнікі партыі ўлады, каментатары разглядаюць як нарастаючы крызіс кансенсусу лібералаў і нацыяналістаў, якія ў свой час склалі касцяк «лагера Майдана». Доўгі час у гэтым тандэме рэй вялі лібералы, аднак цяпер, падаецца, кансерватары перайшлі ў наступ. Дайшло да таго, што 19 чэрвеня ў Вярхоўнай Радзе запатрабавалі распачаць справу пра збіццё паліцыяй групы людзей, якія пратэставалі супраць маршу ЛГБТ і высылкі з Кіева пасла ЗША Мэры Ёвановіч за тое, што яна таксама «крочыла ў калоне вычварэнцаў».

# Беларускія «дзікавосы»: вуліцы і іх назвы

Таццяна ПРОЦЬКА

**Супрацоўнікі кампаніі «Яндэкс» у 2014 годзе падлічылі колькі вуліц у беларускіх гарадах. У тройку лідараў па іх колькасці ўвайшлі Мінск, Магілёў і Віцебск. У сталіцы налічваецца каля 1300 вуліц, праспектаў, плошчаў, тупікоў і завулкаў, у Магілёве — каля 900, у Віцебску — 850. Самым кампактным з абласных цэнтраў стаў Гродна — 550 вуліц.**













Амаль палова назваў беларускіх вуліц (44%) носіць нейтральныя назвы геаграфічнага ці этнаграфічнага зместу. Астатнія звязаныя з «увекавечаннем памяці». У назвах вуліц — падзеі і асобы рэвалюцыйнага і савецкага мінулага, асобы і героі так званай Вялікай Айчыннай вайны, некаторыя дзеячы навукі і культуры Беларусі, але перш за ўсё — Расіі. Заходнееўрапейскіх культурніцкіх і навуковых дзеячаў, якія вызначылі дасягненні сучаснай цывілізацыі, у назвах беларускіх вуліц няма. Наогул, расійскія партыйныя, дзяржаўныя дзеячы, мастакі, паэты, пісьменнікі, навукоўцы, военачальнікі, героі ВАВ ушанаваныя ў назвах вуліц сталіцы значна (у разы) болей, чым іх беларускія калегі.

На сайце Мінгарвыканкама ў алфавітным парадку змешчаная інфармацыя пра ўсе вуліцы, плошчы, праезды, завулкі горада. Я скарысталася гэтым, каб прааналізаваць, каго шануюць у сталіцы краіны. Хто нашы героі, пра якіх нам павінны штодзённа нагадваць назвы вуліц? Што ў сувязі з гэтым напамінам мы павінны адчуваць?

## Тэрарысты

Вуліца Пуліхава. Названая ў гонар ураджэнца Мінска, тэрарыста, эсэра Івана Пуліхава, які зрабіў няўдалы замах на мінскага губернатара. Эсэры асудзілі губернатара на смерць за тое, што ён даў загад разагнаць мірную дэманстрацыю з ужываннем зброі. Цяжка сказаць, што было б у Мінску, калі б прыкладам увекавечанага героя кіраваліся сучасныя партыйцы, мірныя дэманстрацыі якіх разганяе АМАП не менш жорстка, чым у 1906 годзе, калі Івана Пуліхава павесілі на варотах турмы.

Вуліца і два завулкі названыя ў гонар рускага тэрарыста Сцяпана Халтурына, які здзейсніў няўдалы замах на цара Аляксандра II, калі былі забітыя 11 салдат і яшчэ 56 параненыя. Пасля Халтурын прыняў удзел у забойстве адэскага пракурора Стрэльнікава, за што разам з саўдзельнікам быў павешаны ў Адэсе ў 1882 годзе. Пракурора сябры «Народнай Волі» асудзілі на смерць за тое, што ён жорстка ставіўся ў судовым працэсе да рэвалюцыйнай апазіцыі царскай уладзе, красамоўна і паспяхова выносіў асуджальныя прысуды. Мяркую, на вуліцы Халтурына беларускія пракуроры павінны задумацца пра вынікі сваёй прафесійнай дзейнасці.

Вуліца і праезд Катоўскага. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі Рыгор Катоўскі быў вядомым малдаўскім крымінальным аўтарытэтам. Ён называў сябе «Атаман Пекла». За свае «подзвігі» Катоўскі адбываў пакаранне ў турмах для асабліва небяспечных злачынцаў. З нарабаванага дапамагаў бедным сялянам, а ў 1919 годзе стаў служыць Савецкай уладзе, атрымаўшы сваю першую пасаду — камандзіра дывізіі. Абавязкі Катоўскага складаліся ў падаўленні пратэстаў, ён займаўся забеспячэннем збору так званай «харчразвёрсткі»: гвалтам адбіраў харчы ў сялян і расстрэльваў за непадпарадкаванне. За добрую працу атрымаў званне генерала. Падчас НЭП «крышаваў» бізнес Адэсы, які «аддзячваў» Катоўскага нядрэннымі дывідэндамі. У 1925 годзе быў застрэлены на адпачынку. Адразу і не скажаш, каму трэба задумвацца пра лёс на вуліцы Катоўскага.

У савецкія часы тэрарыстычныя акты, накіраваныя супраць царскай улады, былі рамантызаваныя, самі тэрарысты выстаўляліся героямі. Зараз нават расійскія гісторыкі пераглядаюць станоўчую ацэнку тых падзей. Увекавечаныя ў Беларусі былыя расійскія героі —зараз там і не героі зусім.

## Кастрычніцкая рэвалюцыя і яе выканаўцы

Рэвалюцыйныя назвы — самы вялікі блок у назвах, амаль 22% вуліц. Пры гэтым назвы, якія ўзгадваюць пра рэвалюцыю ў Расіі і яе дзеячаў, не маюць ніякага (нават ускоснага) дачынення ні да гісторыі Беларусі, ні да яе станоўчага развіцця. Як, напрыклад, вуліцы Аўроўская ці Валачаеўская. З першага погляду незразумела: якое дачыненне яны маюць, напрыклад, да Мінска або Гродна? Але ўвекавечанне павінна не толькі захаваць памяць, яно яшчэ павінна вучыць, уплываць на сённяшні дзень і заўтрашні. Калі глядзець на назвы вуліц з гэтага пункту погляду, то, аказваецца, усё не так проста. Спынімся на назвах некаторых цэнтральных вуліц Мінска, якія, як кажуць зараз, з'яўляюцца ці тварам, ці візітоўкай сталіцы.

Вуліца Валадарскага. Сапраўднае імя — Майсей Гальдштэйн. Нарадзіўся ва Украіне, быў сябрам габрэйскай партыі Бунд, потым пэўны час знаходзіўся ў эміграцыі ў ЗША. У траўні 1917 года вярнуўся ў Расію, у 1918 годзе стаў камісарам друку, прапаганды і агітацыі ў Саюзе камун Паўночнай вобласці. На гэтай пасадзе кіраваў рэпрэсіямі ў дачыненні да апазіцыйнай прэсы — ён быў галоўным абвінаваўцам на публічным працэсе супраць небальшавіцкіх расійскіх газет. У сярэдзіне чэрвеня 1918 года быў таксама асноўным арганізатарам фальшавання вынікаў выбараў у Петраградскі савет. Забіты ў ліпені 1918 года эсэрам, рабочым Мікітам Сяргеевым у Петраградзе. Увекавечанне памяці Валадарскага мае сэнс, толькі калі думаць пра адносіны да апазіцыйнай прэсы і выбараў у сучаснай Беларусі.

Вуліца Кнорына. Сапраўднае імя — Вільгельм Кнорыньш, нарадзіўся ў Латвіі. У лютым 1917-га Кнорын дэзерціраваў з Заходняга фронту і ажыццяўляў кастрычніцкі пераварот у Мінску, дзе неўзабаве ўступіў у партыю бальшавікоў. Хутка стаў рэдактарам бальшавіцкай газеты «Звязда» і сакратаром Мінскага Савета. У снежні 1918-га яго прызначылі сакратаром Цэнтральнага бюро КП(б)Б. Катэгарычна адмоўна ставіўся да ідэі дзяржаўнасці Беларусі як у выглядзе БНР, так і БССР. Кнорын выступаў за ўваходжанне тэрыторыі рэспублікі ў склад РСФСР у якасці абласцей, у сваіх артыкулах і выступах неаднаразова аспрэчваў існаванне беларускага народа і адмаўляў яму ў праве на нацыянальную мову і культуру, лічыў, што трэба сілай сцерці ўсякія адрозненні беларусаў ад рускіх («нацыянальныя рагаткі»).

За час яго працы ў Беларусі (да 1922 года) усе спробы стварэння беларускіх школ або выдання прэсы на беларускай мове перарываліся, а тыя, што былі, — зачыняліся. Кнорын жорстка пераследаваў актывістаў беларускіх нацыянальных партый — у 1920–1922 гадах ініцыяваў шэраг судовых працэсаў над імі. Асаблівую нянавісць Кнорына выклікала беларуская інтэлігенцыя, і ў першую чаргу тыя яе прадстаўнікі, што спачувалі БНР ці былі выхадцамі з заходніх абласцей Літвы і Польшчы: ён іх расцэньваў як «шпіёнаў і дыверсантаў». Быў расстраляны ў Маскве ў ліпені 1938 года па абвінавачванні ў падрыхтоўцы тэрарыстычных актаў. Відавочна, што спадар Замяталін у сваіх дзеяннях на кіруючых пасадах у Беларусі быў «другім Кнорыным», браў з яго прыклад, карыстаўся яго ідэямі. Відаць, у свеце няма іншай нацыі, якая б ушаноўвала памяць пра чалавека, што адмаўляў ёй права на існаванне.

Праспект Дзяржынскага. Названы ў гонар Феліксa Дзяржынскага, які, хоць і нарадзіўся каля Івянца, лічыў сябе палякам. Дзяржынскі мае важную «заслугу» ў гісторыі Расіі — быў арганізатарам і кіраўніком «чырвонага тэрору». Дзяржынскі памёр у 1926 годзе, афіцыйна — ад сардэчнага прыступу. На гэты час ён быў не толькі кіраўніком савецкіх спецслужбаў, але і ўзначальваў галоўны савецкі кіруючы гаспадарчы орган — ВСНГ, быў галоўным барацьбітом з карупцыяй і бюракратызмам. Яго сталі афіцыйна і максімальна ўшаноўваць як героя, калі спецслужбы атрымалі ў СССР галоўныя кіруючыя пасады: ім былі патрэбныя свае, не партыйныя і не рэвалюцыйныя героі. Сёння Дзяржынскі — афіцыйны герой КДБ Беларусі.

Вуліца Мяснікова. Сапраўднае прозвішча Аляксандр Мяснікян, нарадзіўся ў Нахічэвані, армянін. У чэрвені 1917 года ўзначаліў Мінскую арганізацыю РСДРП(б), разам з першым «галоўным міліцыянерам» Мінска Міхаілам Фрунзе арганізаваў і стаў першым рэдактарам бальшавіцкай газеты «Звязда». У кастрычніку 1917-га стаў членам Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта Заходняга фронту, а ў лістападзе — ужо яго камандуючым. Выконваючы абавязкі Вярхоўнага галоўнакамандуючага, Мяснікоў кіраваў ліквідацыяй Стаўкі ў Магілёве, праводзіў чыстку сярод афіцэраў царскай арміі. Гэта прывяло да поўнага развалу фронту і масавага дэзерцірства, што спрыяла немцам у акупацыі Беларусі.

Мяснікоў быў адным з ініцыятараў і выканаўцаў разгону Усебеларускага з'езду. Ён, як і яго тагачасныя саратнікі Кнорын і Ландэр, не лічылі беларусаў нацыяй. Але, з'яўляючыся даверанай асобай наркама па справах нацыянальнасцяў РСФСР Іосіфа Сталіна, падпарадкаваўся партыйнай дысцыпліне і прыняў удзел у падрыхтоўцы стварэння Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь (ССРБ). 1 студзеня 1919 года паставіў свой подпіс пад маніфестам Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі, прымаў кіраўнічы ўдзел у распрацоўцы першай Канстытуцыі савецкай Беларусі, быў адным з арганізатараў Літоўска-Беларускай ССР (ЛітБел). З 1921 года працаваў у Арменіі. Загінуў у авіякатастрофе ў 1925 годзе. У савецкай Беларусі Мяснікоў заўсёды згадваўся як чалавек, які «перамог» БНР.

У сталіцы ўшанаваныя амаль усе вядомыя кіраўнікі СССР, ваенныя і партыйныя, — Куйбышаў, Свярдлоў, Арджанікідзэ, Чапаеў, Кіраў, Калінін, Шчорс, Тухачэўскі, Ленін (таксама і ў выглядзе Ульянава), яго жонка Крупская і іншыя. Нават у Расіі да гэтых асобаў сёння ставяцца неадназначна. Для развіцця Беларусі (нават і ў выглядзе БССР!) іх дзейнасць мае негатыўны (у лепшым выпадку, нейтральны) характар. У сукупнасці гэтыя назвы маюць толькі ідэалагічны сэнс — але гэта зусім не беларуская дзяржаўная ідэалогія.

**Працяг будзе**

# Рабаванне цягніка пад Наваградкам і замах на брата цара

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Група «анархістаў-максімалістаў» 110 гадоў таму здзейсніла дзёрзкі напад на цягнік, які перавозіў буйную суму грошай.**

## «Няхай жыве безуладдзе!»

У пачатку XX стагоддзя Беларусь была адным з найбуйнейшых цэнтраў рэвалюцыйнага руху ў Расійскай імперыі. Гэта было абумоўлена некалькімі абставінамі: з'яўленне тут першых прамысловых прадпрыемстваў разам з рабочымі, жорсткая эксплуатацыя і бяспраўе, нацыянальная дыскрымінацыя ў дачыненні да габрэйскага, польскага і беларускага насельніцтва. І наадварот — глыбокія сацыяльныя і нацыянальныя супярэчнасці паміж беларускімі сялянамі і памешчыкамі, большая частка якіх лічыла сябе палякамі, рускімі ці была нямецкага паходжання.

Менавіта ў Беластоку Гродзенскай губерні ў канцы 1902 года з'явілася першая ў Расійскай імперыі анархісцкая арганізацыя — гурт «Барацьба». Сярод шматлікіх рэвалюцыйных тэндэнцый анархісты-камуністы былі самымі радыкальнымі — яны не вызнавалі ніякіх кампрамісаў. Паслядоўнікі князя Крапоткіна патрабавалі неадкладнай замены любой улады і капіталізму поўным «безначалием» і камунізмам. Фірмовай тактыкай прыхільнікаў безуладдзя стаў індывідуальны тэрор і экспрапрыяцыі.

У Беластоку, Гродне і некаторых іншых гарадах гурткі анарха-камуністаў змаглі набыць і масавую падтрымку рабочых — перш за ўсё за кошт прымянення падчас стачак так званага «эканамічнага тэрору». Напрыклад, беластоцкі анархіст Нісан Фарбэр, былы беспрытульнік, у 1904 годзе накінуўся з кінжалам на фабрыканта Кагана проста пры выхадзе з сінагогі.

Уладальнікі заводаў самі нярэдка ўжывалі гвалту супраць страйкоўцаў — альбо рукамі нанятых штрэйкбрэхераў, альбо войскаў і паліцыі. Але, зразумеўшы, што яны могуць атрымаць адказ у выглядзе анархісцкай бомбы, якая ўляціць у кватэру, застрашаныя гаспадары прадпрыемстваў сталі паводзіць сябе з працоўнымі значна мякчэй.

Да анархістаў перабягалі многія сябры партый Бунд і РСДРП, незадаволеныя «памяркоўнасцю» свайго кіраўніцтва. А ў партыі эсэраў у той жа Беларусі нарадзілася цэлая плынь «максімалістаў», блізкая да анархістаў.

## Бомба для інкасатараў

Аднак рэвалюцыя 1905–1907 гадоў пацярпела паразу. Анархісты папракалі ў гэтым сацыялістычныя партыі: нібыта сваёй арыентацыяй на дэмакратычную «праграму-мінімум» і саюз з буржуазіяй тыя стрымалі народнае паўстанне. Але іх уласная тактыка ўзброеных вылазак і рабаванняў поспеху таксама не прынесла — большасць ідэйных анархістаў вельмі хутка апынуліся на эшафоце або на катарзе. А разгромленыя арганізацыі лібертарыяў сталі папаўняцца за кошт рознага кшталту авантурыстаў ці проста крымінальных элементаў.

На фоне адступлення рэвалюцыйнай хвалі ў беларускіх гарадах і мястэчках пачалі ўзнікаць шматлікія групы «Чорных крумкачоў», «Чорных масак» і іншых гурткоў са злавеснымі назвамі. Яны літаральна тэрарызавалі мясцовых прадпрымальнікаў. Гэта — былыя анархісты, якія цяпер вымагалі грошы не ў ідэйных, а ў асабістых мэтах. Дзеля гэтага здзяйсняліся і шматлікія дробныя рабаванні. Відавочцы ўспаміналі: «Збіраюцца піць гарбату. Няма цукру. Ідуць экспрапрыяваць цукар у краме». Сіяніскі дзеяч С.М.Гальдштэйн, які вельмі недалюбліваў анархістаў, прыводзіў у прыклад выпадак, як два маладых анархісты ў Беластоку са словамі «Mir exprorpriiren die Wurst» забралі ў краме два фунты кілбасы.

Вынікам такіх прыгод, нягледзячы на нікчэмную колькасць захопленага, нярэдка станавілася шыбеніца. Але ацалелыя перакананыя баевікі не пакідалі планаў правядзення і буйных аперацый. У 1908 годзе на Гродзеншчыне радыкальныя групы анархістаў і эсэраў-максімалістаў, нягледзячы на ўсе рознагалоссі (безуладнікі крытыкавалі максімалістаў за вынайдзеную імі «Рэспубліку Саветаў»), сталі аб'ядноўвацца.

Мэта таксама была намечана буйная — сутачная выручка Палескай чыгункі.

Раніцай 29 ліпеня 1908 года цягнік, які збіраў грошы з касаў па ўсёй дарозе, прыпыніўся на



Мінская група анархістаў-камуністаў «Чорны сцяг». 1906 год

станцыі «Навагрудак». Ледзь толькі паравоз у клубах густой пары спыніўся ля перона, як загрымелі стрэлы. Два дзясяткі баевікоў адкрылі агонь з рэвальвераў па цягніку і ахове. А затым пачуўся магутны выбух — гэта ў багажнае аддзяленне, дзе ехалі інкасатары, кінулі бомбу. Калі разышоўся дым ад дынаміту, на пероне ў лужыне крыві застаўся ляжаць камандзір баявой групы — ахова цягніка адкрыла агонь у адказ.

Адстрэльваючыся на хаду, экспрапрыятары сталі сыходзіць. Узяць чыгуначную касу ў іх так не атрымалася.

Акрамя забітага правадыра баевікоў, раненні атрымаў машыніст цягніка і некалькі пасажыраў. На ногі была паднятая ўся паліцыя Гродзенскай губерні. Частка ўдзельнікаў нападу была арыштаваная. Паліцыянты хапалі ўсіх запар: разам з падазраванымі Бляхерам і Балодам былі схопленыя Пінчэўскі і Рабіновіч, якія гулялі з імі ў лесе. Затрыманы ў Беластоку па падазрэнні ў налёце ў Наваградку Вайнштэйн быў збіты амаль да смерці, пасля чаго прывезены ў шпіталь. Сярод арыштаваных апынуўся і нехта Дабкоўскі.

## Найвысокае памілаванне

Начальнік Гродзенскага губернскага жандарскага ўпраўлення палкоўнік Карпаў задуменна гартаў справы арыштантаў: «Дабкоўскі Э.Г. Сябра партыі анархістаў-максімалістаў. Арыштаваны па ўдзеле ў нападзе на арцельшчыкаў Палескай чыгункі на станцыі «Навагрудак».

Мінулым разам на допыце ў Беластоцкай турме гэты нахабны налётчык абяцаў паведаміць нейкія звесткі асаблівай дзяржаўнай важнасці — але толькі высокаму кіраўніцтву. «Што ж, паглядзім, што распавядзе мне гэты разбойнік», — вырашыў начальнік ГЖУ.

Ён загадаў выклікаць Дабкоўскага. Праз пяць хвілін дужыя жандарскія унтэр-афіцэры, бразгаючы шпорамі, увялі ў кабінет шчуплага чарнявага маладога чалавека. Гаспадар кабінета моўчкі кіўнуў на крэсла.

«Спадар палкоўнік, — звярнуўся Дабкоўскі да Карпава. — У мінулы раз я абяцаў адкрыць нейкую таямніцу. І я стрымаю сваё слова. Я і мая група павінны былі забіць іх светласцяў вялікага князя Міхаіла Аляксандравіча і вялікага князя Канстанціна Канстанцінавіча». Жандарскі палкоўнік адразу зрабіў «стойку», хоць і выгляду не падаў. Вялікі князь Міхаіл з'яўляўся родным братам імператара Мікалая II і яшчэ нядаўна быў афіцыйным спадчыннікам трону.

Па словах злоўленага «эксіста», тэрарысты таксама мелі намер ліквідаваць двух высокапастаўленых чыноўнікаў «Паўночна-Заходняга краю». Мэта намечаных аперацый — паказаць, што рэвалюцыя зусім не памерла, а падполле працягвае дзейнічаць.

Палкоўніку Карпаву, зразумела, захацелася высветліць усе абставіны і дэталі планаванага замаху на вялікіх князёў: мянушкі чальцоў баявой арганізацыі, паролі, яўкі... Але тут арыштаванага баявіка нібы падмянілі. І ён паабяцаў распавесці ўсе падрабязнасці толькі ў тым выпадку, калі яму будзе гарантавана найвысокае памілаванне.

«Ён яшчэ і гандлюецца», — задумаўся палкоўнік Карпаў. Калі ўсё гэта праўда — ордэн ці павышэнне па службе яму былі б гарантаваныя. А можа і нават перавод у сталіцу з гэтай пастылай глухмені. Багатае ўяўленне малявала палкоўніку пецярбургскія салоны ды рэстараны і бліскучых дам у капялюшыках з вэлюмам. «А калі гэты ўяўны Рынальда Рынальдыні ўсё гэта выдумаў? Ну што ж, будзем правяраць», — вырашыў Карпаў і паведаміў пра незвычайнага злачынцу куды трэба.

Неўзабаве распараджэннем пецярбургскага Дэпартамента паліцыі перспектыўны арыштант быў пераведзены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Наступнае расследаванне паказала — шыкоўных дам сталічнага паўсвету гродзенскаму палкоўніку яшчэ доўга не відаць. Падследны працягваў даваць блытаныя паказанні — казаў пра нейкую таямнічую жанчыну, якая як бы і адказвала за замах на вялікіх князёў. Урэшце, шпікам стала зразумела — уся гісторыя з тэрактамі супраць сваякоў імператара Мікалая II і высокапастаўленых чыноўнікаў Расійскай імперыі ў Беларусі была выдуманай ад пачатку да канца. Пры гэтым Дабкоўскі не назваў ніводнага рэальнага саўдзельніка, і наогул нікога не выдаў.

Магчыма, арыштаваны рэвалюцыянер такім чынам проста хацеў пацягнуць час. Напрыклад, спадзеючыся падрыхтаваць уцёкі. Неўзабаве дэпартамент паліцыі афіцыйна заявіў, што больш у яго паказаннях не мае патрэбы.

Віленскі акруговы суд прыгаварыў Дабкоўскага да смяротнага пакарання праз павешанне. Аднак пагроза рэвалюцыйнага выбуху ўжо мінула. І па канфірмацыі ад 10 красавіка 1910 года шыбеніца была замененая яму на бестэрміновую катаргу. У калідорах катаржнай «Цэнтралі» і перасыльных сляды гэтага арыштанта, сына свайго бурнага часу, і губляюцца. У спісах Усерасійскага таварыства паліткатаржан і ссыльна-пасяленцаў чалавек з такім прозвішчам не згадваецца. Магчыма, ён не дажыў да 1920-х гадоў або эміграваў. Ці проста не быў прыняты ў таварыства былых эсэраў і анархістаў, як той, хто даў у свой час «адкрытыя» паказанні...



Навагрудак. Рынкавая плошча






# Свята сонца ў Дудутках!

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Ні адно беларускае традыцыйнае каляндарнае свята не можа пахваліцца такімі маштабнымі мерапрыемствамі, што да яго прымяркоўваюцца, як Купалле.**



Сезон святкаванняў Купалля распачаў фэст «Свята сонца» ў Дудутках 16–17 чэрвеня. Наперадзе — «Купальскае кола», свята ў Музеі народнай архітэктуры і побыту, Рудабельскае Купалле ў пасёлку Акцябрскі (у межах Фестывалю фальклорнага мастацтва «Берагіня»), фэст у маёнтку «Сула» і шматлікія мясцовыя святкаванні ў гарадах і вёсках. На аматара — яшчэ агульнарэспубліканская «Александрыя збірае сяброў».

Па словах галоўнага арганізатара «Свята сонца» Аляксандра Рака, мерапрыемства розніцца ад тых, што ладзяць канкурэнты, сваім добрым планаваннем. Гэта дазваляе не баяцца надвор'я і заўсёды выходзіць у плюс.

Аляксандр Рак адзначае, што ў Беларусі не так і шмат камерцыйна паспяховых фэстаў, хаця колькасць мерапрыемстваў з кожным годам множыцца. Сёлета «Свята сонца» прайшло трэцім разам. У 2016-м яно сабрала 700–800 наведвальнікаў, у 2017-м — ужо тры з паловай тысячы. Сёлетніх лічбаў пакуль няма.

Іншае і ўявіць складана, з такім зорным складам музыкаў. На галоўнай сцэне фестывалю выступілі гурты VOLSKI, IRDORATH, PAWA, ТРОЛЛЬ ГНЁТ ЕЛЬ (Расія), FRAM (Украіна), RE1IKT, ЯВАРЫНА, KETRI, КАЦЯРЫНА ВАДАНОСАВА & Fantasy Orchestra, PRAGNAVIT (Магілёў).

Крыху незразумелая канцэпцыя, згодна з якой складалася музычная праграма: гурты даволі разнажанравыя. Зрэшты, гэта прывабіла розныя катэгорыі наведвальнікаў, кожны мог пачуць нешта цікавае для сябе. Сэт зорак перарваўся фестывалем у фестывалі — спаборніцтвам тэатраў агню і сольных фаершчыкаў.



На малой сцэне, як і на вялікай, выступілі гурты розных жанраў. Там дзейнічаў заяўляльны прынцып: артысты збольшага самі звярталіся да арганізатараў.

На «Свяце сонца» было даволі шмат людзей з дзецьмі, але ўсё роўна не столькі, як на еўрапейскіх фестывалях, дзе звычайна робяць адмысловыя пляцоўкі з разнастайнымі актыўнасцямі. Затое дэмакратычнымі коштамі, у адрозненне ад тых жа еўрапейскіх фестываляў, радаваў фудкорт.

Бадай, ніводнае беларускае традыцыйнае каляндарнае свята не можа пахваліцца такімі маштабнымі мерапрыемствамі, што да яго прымяркоўваюцца, як Купалле. Пры гэтым мясцовыя варыянты свята збольшага забытыя, нават для сельскіх мерапрыемстваў часта выкарыстоўваюцца не ўспаміны старэйшых жыхароў, а стандартныя сцэнары. І гэта цікавы прыклад новага жыцця свята, ужо не ў яго лакальным варыянце, а на нацыянальным узроўні. Філосаф Уладзімір Конан лічыў, што пераход лакальнага ў нацыянальнае — той шлях, што чакае традыцыйную культуру пасля індустрыялізацыі ды ўрбанізацыі.

Большасць наведвальнікаў «Свята сонца», мабыць, чуць не чулі пра рэгіянальную разнастайнасць беларускага Купалля, але ўначы спантанна завялі карагоды, пайшлі купацца, сталі скакаць праз вогнішча. Гэта новае жыццё традыцыі, і жыццё надзвычай цікавае.

# «Рыбку Поньё» пакажуць у кіно па-беларуску

**Праект «Беларускія ўікэнды» пры падтрымцы velcom пакажа ў беларускай агучцы мультфільм Хаяо Міядзакі «Рыбка Поньё». Прэм'ера фільма адбылася 21 чэрвеня ў кінатэатры «Масква». Адна з самых вядомых стужак знакамітага японскага рэжысёра будзе асабліва цікавая для дзіцячай аўдыторыі. Свае галасы героям мультфільма падаравалі беларускія акцёры Святлана Цімохіна, Святлана Анікей, Наталля Кот, Павал Харланчук, Алесь Малчанаў і тэлевядучы Яўген Перлін.**

Паказы «Рыбкі Поньё на ўцёсе» пройдуць з 21 па 24 чэрвеня ў кінатэатры «Масква», з 26 па 27 чэрвеня — у кінатэатры «Піянер».

«Рыбка Поньё» — дзясяты па ліку поўнаметражны фільм Хаяо Міядзакі, уладальніка ганаровай Прэміі «Оскар» за выдатныя заслугі ў кінематографе і аўтара такіх знакамітых работ, як «Знесеныя прывідамі» і «Хадзячы замак». Сама стужка ў 2008 годзе была намінаваная на «Залатога льва» — галоўны прыз Венецыянскага кінафестывалю, — і ўдастоена дзвюх спецыяльных узнагарод гэтага прэстыжнага кінафоруму, а годам пазней стала лепшым анімацыйным фільмам па меркаванні Японскай акадэміі.

Гісторыя рыбкі Поньё ўяўляе сабой, бадай, самае незвычайнае пералажэнне знакамітай «Русалачкі» Андэрсана. Толькі на гэты раз яна паўстае ў вобразе маленькай дзяўчынкі з усімі ўласцівымі гэтаму ўзросту мілымі і не вельмі асаблівасцямі: цікаўнасцю і непасрэднасцю, наіўнасцю і схільнасцю да адданасці, а яшчэ — упартасцю ў дасягненні запаветнага жадання: стаць чалавекам і заваяваць каханне хлопчыка Соскэ. І пакуль Поньё ідзе да сваёй мэты, свет вакол у літаральным сэнсе перакульваецца з ног на галаву, а на сушу абвальваецца мора... Чым усё гэта скончыцца, залежыць ад выбару пяцігадовага хлапчука і яго здольнасці прыняць сваю незвычайную сяброўку такой, якая яна ёсць.



Традыцыю перакладаць на беларускую мову і агучваць галасамі вядомых у свеце беларускага тэатра, кіно і музыкі персон яркія вобразы сусветнага кінематографа, ад класічных хітоў да навінак самых розных жанраў, заснавала і падтрымлівае кампанія «Кінаконг». А дапамагае ёй у гэтым velcom. За час рэалізацыі праекта «Беларускія ўікэнды» ўжо адбыліся паказы такіх фільмаў, як «Хронікі Нарніі: леў, вядзьмарка і гардэроб», «Маленькі прынц», «Форэст Гамп», «Жонка наглядчыка заапарка», «Кніга Ілая», «Таямніца Келз», «Неверагодная жыццё Уолтара Міці». І зараз гэты спіс прадоўжыць яшчэ адна дзіўная гісторыя.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №290

Падпісана да друку 22.06.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.